**№ 74 (3917)**

23 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Вам неабходна працягнуць падпіску на кастрычнік? Не спазніцеся! Зрабіце гэта да 28 верасня.**

*Вы — з "Народнай Воляй", "Народная Воля" — з Вамі!*

**ОФИЦИАЛЬНО**




## *Меморандум об исполнении положений Протокола по итогам консультаций Трехсторонней контактной группы относительно шагов, направленных на имплементацию Мирного плана Президента Украины Петра Порошенко и инициатив Президента России Владимира Путина*

Во исполнение п.1 Протокола по итогам консультаций Трехсторонней контактной группы относительно совместных шагов, направленных на имплементацию Мирного плана Президента Украины П.Порошенко и инициатив Президента России В.Путина (г.Минск, Республика Беларусь, 5 сентября 2014 г.), участники Трехсторонней контактной группы в составе представителей Украины, Российской Федерации и Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе и представители отдельных районов Донецкой и Луганской областей достигли понимания относительно следующих мер, призванных закрепить договоренности о двухстороннем прекращении применения оружия.

1.Прекращение применения оружия считается общим.

2.Остановка подразделений и воинских формирований сторон на линии соприкосновения по состоянию на 19 сентября 2014 года.

3.Запрет на применение всех видов оружия и ведения наступательных действий.

4.В течение суток с момента принятия данного Меморандума — отвод средств поражения калибром более 100 мм от линии стыка на расстояние не менее 15 км с каждой стороны (за исключением указанных ниже), в том числе из населенных пунктов, что даст возможность создать зону прекращения применения оружия шириной не менее 30 км (зону безопасности). При этом отвести от линии соприкосновения сторон артиллерийские системы калибра более 100 мм — 100 мм пушки МТ-12 — 9 км; 120 мм минометы — 8 км; 122-мм гаубица Д-30 (2С1 "Гвоздика") — 16 км; 152 мм 2С5 "Гиацинт-С" (2С3 "Акация", 2С19 "Мста-С", 2А65 "Мста-Б") — 33 км, РСЗО 9К51 "Град" — 21 км, 9К57 "Ураган" — 36 км, 9К58 "Смерч" — 70 км, РСЗО "Торнадо-Г" — 40 км, РСЗО — "Торнадо-У" — 70 км, РСЗО "Торнадо-С" — 120 км; — тактические ракетные комплексы — 120 километров.

5.Запрет на размещение тяжелого вооружения и военной техники в районе, который ограничен населенными пунктами Комсомольское, Кумачеве, Новоазовск, Саханка.

6.Запрет на установку новых минно-взрывных инженерных заграждений в пределах зоны безопасности. Обязательства на снятие ранее установленных минно-взрывных заграждений в зоне безопасности.

7.Запрет с момента принятия данного Меморандума полетов боевой авиации и иностранных беспилотных летательных аппаратов (БПЛА), за исключением БПЛА ОБСЕ, вдоль всей линии соприкосновения сторон в зоне прекращения применения оружия на ширину не менее 30 километров.

8.Развертывание в зоне прекращения применения оружия мониторинговой (наблюдательной) миссии ОБСЕ в составе групп наблюдателей Организации в течение суток с момента принятия данного Меморандума. Вышеуказанную зону целесообразно разделить на секторы, количество и границы которых согласовать в ходе подготовки к работе мониторинговой (наблюдательной) миссии ОБСЕ.

9.Вывод всех иностранных вооруженных формирований, военной техники, а также боевиков и наемников с территории Украины при мониторинге ОБСЕ".

Участники Трехсторонней контактной группы:
Посол **Хайди Тальявини** (ОБСЕ)
Второй президент Украины **Л.Д.Кучма**
Посол РФ в Украине **М.Ю.Зурабов**
**А.В.Захарченко**
**И.В.Плотницкий**

Минск, 19 сентября 2014 года.

*(Продолжение темы на 5-й стр.)*

**ПАЛІТКУХНЯ**

## *На Кангрэс!*

У снежні магчыма адбудзецца Усебеларускі кангрэс за незалежнасць. Такое рашэнне было прынята 20 верасня ў Мінску на чарговым пасяджэнні аргкамітэта кангрэса.

Да працы аргкамітэта далучыліся акадэмік **Радзім Гарэцкі,** прафесар **Мікола Савіцкі,** пісьменнік **Уладзімір Арлоў,** кінарэжысёр **Уладзімір Колас** і праваабаронца **Міхаіл Пастухоў.**

Доктар юрыдычных навук, прафесар, заслужаны юрыст Беларусі, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў, назваў ідэю правядзення кангрэса "вельмі слушнай" і адзначыў, што існуюць грунтоўныя падставы для арганізацыі гэтага форуму, паколькі 29 мая 2014 года ў Астане (Казахстан) прэзідэнтамі Беларусі, Казахстана і Расіі падпісана дамова аб Еўразійскім эканамічным саюзе, якую бліжэйшым часам плануюць ратыфікаваць.

На думку юрыста, у гэтай дамове ёсць палажэнні, што нясуць непасрэдную пагрозу незалежнасці Беларусі. Гаворка ідзе, між іншым, пра артыкул 6, што тычыцца прававых актаў, якія прымаюцца наддзяржаўнымі органамі і з'яўляюцца абавязковымі для дзяржаў-удзельніц ЕўрАзЭС, а таксама пра артыкул 13, згодна з якім краіна-падпісант не можа выйсці з саюза без згоды іншых краін. І калі гэтая дамова будзе ратыфікавана, можна сцвярджаць пра рэальную небяспеку для суверэнітэту Беларусі, падкрэсліў Міхаіл Пастухоў.

На пасяджэнні былі вылучаны кандыдатуры сустаршыняў аргкамітэта і кангрэса, якія будуць зацверджаны пасля атрымання адпаведнай згоды, а таксама разгледжаны іншыя арганізацыйныя пытанні.

Нагадаем, што аргкамітэт па падрыхтоўцы і скліканні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць быў створаны 30 жніўня. Каардынатарам аргкамітэта абрана вядомая грамадская дзеячка, мовазнаўца **Алена Анісім.**

Сябры аргкамітэта чакаюць ад людзей канкрэтных прапаноў па фармаце кангрэса, яго тэматыцы, месцы і часе правядзення, па механізме вылучэння дэлегатаў і зборы сродкаў для арэнды памяшкання і на іншыя выдаткі. Свае прапановы і заўвагі жадаючыя могуць даслаць на адрас электроннай пошты niezaleznasc@gmail.com.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Міхаіл Мясніковіч шукае грошы ў Злучаных Штатах Амерыкі



Кіраўнік беларускага ўрада **Міхаіл Мясніковіч** знаходзіцца ў Злучаных Штатах Амерыкі. У Нью-Ёрку ўпершыню праходзіць Беларуска-амерыканскі інвестыцыйны форум.

З беларускага боку ў форуме бяруць удзел прадстаўнікі Банка развіцця, Міністэрства фінансаў, Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, Нацыянальнага банка Беларусі, Парка высокіх тэхналогій і кампаніі па развіцці Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парка. Узначальвае дэлегацыю Міхаіл Мясніковіч. Нагадаем, што ён з'яўляецца адным з нешматлікіх высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў, якім уезд у Злучаныя Штаты і краіны ЕС не быў забаронены.

ЗША — краіна з найбольшым інвестыцыйным патэнцыялам, таму ўсе дзяржавы свету імкнуцца да супрацоўніцтва з ёю. Аднак Беларуска-амерыканскі інвестыцыйны форум праходзіць упершыню. Мерапрыемства арганізавана пры падтрымцы Міністэрства эканомікі, Міністэрства замежных спраў Беларусі і Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі. Відавочная мэта мерапрыемства — пошук грошай і інвестараў.

**ДАРЭЧЫ**

Сёння, 23 верасня, прэм'ер-міністр Беларусі таксама возьме ўдзел у саміце па клімаце, які праходзіць у Нью-Ёрку. Удзел у ім на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў пацвердзілі 115 краін. Так што Міхаіл Мясніковіч нарэшце аказаўся ў вельмі высокапастаўленай кампаніі.

**Алена НОВІКАВА.**

## *Министр сельского хозяйства увидел «настоящий технологический бардак»*

На традиционной планерке в понедельник министр сельского хозяйства и продовольствия **Леонид Заяц** рассказал о своем посещении СПК "Искра" Круглянского района.

То, что он увидел в хозяйстве, руководитель аграрного ведомства жестко охарактеризовал как "настоящий технологический бардак". Сенажные траншеи не укрыты, нет консервантов, внутри некоторых ферм столько навоза, что корове приходится становиться на колени, чтобы достать корм. И это в одном из лучших районов Могилевщины! "Что же говорить об остальных?" — резонно заметил министр.

**КАДРЫ**

## Прыйшло папаўненне

*У кіраўніцтве Нацыянальнай акадэміі навук адбыліся сур'ёзныя змены.*

Акадэмік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар **Валянцін Арловіч** прызначаны акадэмікам — сакратаром Аддзялення фізікі, матэматыкі і інфарматыкі НАН Беларусі.

Член-карэспандэнт, доктар тэхнічных навук **Аляксандр Ласкаўнёў** стаў акадэмікам-сакратаром Аддзялення фізіка-тэхнічных навук НАН Беларусі.

Член-карэспандэнт, доктар біялагічных навук, прафесар **Міхаіл Нікіфараў** — акадэмікам-сакратаром Аддзялення біялагічных навук НАН Беларусі.

Доктар медыцынскіх навук, прафесар **Мікалай Сердзючэнка** — акадэмікам-сакратаром Аддзялення медыцынскіх навук.

Доктар тэхнічных навук, дацэнт **Уладзімір Азаранка** — акадэмікам-сакратаром Аддзялення аграрных навук.

Звяртае на сябе ўвагу, што медыцынскую навуку і аграрную навуку ўзначалілі навукоўцы, якія пакуль не з'яўляюцца не толькі акадэмікамі, але нават членкорамі. Хаця ў бліжэйшы час гэтая сітуацыя можа змяніцца. Адначасова з прызначэннямі ў НАН Беларусі створана камісія па прыёме дакументаў ад кандыдатаў у сапраўдныя члены (акадэмікі) і члены-карэспандэнты.

Валянцін Арловіч — прызнаны спецыяліст у галіне лазернай фізікі. Доктарам навук стаў у 1990 годзе, з 2000 года — член-карэспандэнт, з 2003 г. — акадэмік. Аўтар 500 навуковых прац і 9 вынаходніцтваў.

Аляксандр Ласкаўнёў сваю кар'еру пачынаў інжынерам-канструктарам на Мінскім гадзіннікавым заводзе, але паступова заняўся парашковай металургіяй, у 2004 годзе абараніў доктарскую дысертацыю. З 2009 года — член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук.

Міхаіл Нікіфараў усё жыццё вывучаў птушак, з'яўляецца адным з самых вядомых арнітолагаў краіны. Доктар біялагічных навук з 2006-га, член-карэспандэнт НАН РБ — з 2009 года.

Мікалай Сердзючэнка да нядаўняга часу з'яўляўся галоўным урачом 1-й клінічнай бальніцы Мінска. Па спецыяльнасці — артапед-траўматолаг.

Уладзімір Азаранка ў свой час з'яўляўся намеснікам цяперашняга старшыні прэзідыума НАН РБ Уладзіміра Гусакова (тады менавіта ён займаў пасаду акадэміка-сакратара Аддзялення аграрных навук).

**ФАКТ...**

## Было б карыта — свінні знойдуцца?

Учора прайшла чарговая нарада пад старшынствам А.Лукашэнкі па пытаннях, звязаных з прыняццем мер па аднаўленні вытворчасці свініны. Аляксандр Рыгоравіч супакоіў насельніцтва: маўляў, унутры краіны створаны ўсе ўмовы для аднаўлення свінога пагалоўя, у кожным рэгіёне Беларусі пабудаваны і функцыянуюць магутныя свінакомплексы, прадукцыя якіх паступае не толькі на ўнутраны, але і на знешнія рынкі. Ад урада і мясцовых органаў запатрабавана да 1 красавіка 2015 года аднавіць аб'ёмы вытворчасці свініны.

Кіраўнік краіны заўважыў, што пасля майскай нарады *"ўсе ўзялі пад казырок і быццам бы распрацавалі адпаведныя планы"*. І папярэдзіў, што не павінна быць паўтарэння памылак, якія былі дапушчаны ў ільнаводчай галіне, калі *"бралі пад казырок і рабілі на 10—30%, а падчас і нічога не рабілі..."*



**... І КАМЕНТАРЫЙ**

### *«Дзяржава, па сутнасці, хоча стаць манапалістам...»*

Ці ўдасца аднавіць і пераўзысці ўзровень вытворчасці свініны? За кошт чаго гэта можа быць зроблена? Мы датэлефанаваліся былому фермеру з Бярозы **Аляксандру Аліхверу.**

У свой час ён узяў у арэнду стары будынак і кавалак зямлі. Стаў займацца гаспадаркай, гадаваць свіней. Пагалоўе дасягала дзвюх соцень. Але гаспадарка Аляксандра знаходзілася ў пяцікіламетровай зоне ад буйной свінафермы, і пасля пагрозы эпідэміі афрыканскай чумы яго прымусілі пазбавіцца ад усяго пагалоўя. Фермер стаў беспрацоўным... Ягоная гаспадарка знішчана.

— Для таго каб павялічыць аб'ём вытворчасці свініны, неабходна ўводзіць у строй новыя свінакомплексы акрамя тых, што ўжо функцыянуюць, — выказвае сваё меркаванне Аляксандр Аліхвер. — Таксама трэба аднаўляць раней зачыненыя свінакомплексы, вакол якіх, ізноў-такі дзякуючы цяперашнім законам, трэба ўводзіць пяцікіламетровую зону адчужэння. Для гэтага дзяржаве патрэбныя вялікія сродкі. А дзе іх браць? Праз чарговыя крэдыты?

Яшчэ раз падкрэслю: у дзяржавы няма сродкаў, многія свінакомплексы знаходзяцца ў заняпадзе, літаральна ў знішчаным стане. Раскажу на ўласным прыкладзе. Ферму, якая стаяла ў чыстым полі яшчэ з савецкіх часоў, агарадзілі плотам толькі за тыдзень да таго, як мне паведамілі, што я павінен знішчыць сваіх свіней, бо мая гаспадарка знаходзіцца ў адлегласці менш за пяць кіламетраў ад яе. Вось такі дзяржаўны падыход... Гэтую ферму паводле ўсіх санітарных нормаў даўно ўжо патрэбна было закрыць, але ж яна дзяржаўная. Яна працуе, а мая гаспадарка знішчана. Пазабіваў усіх свіней і прадаў знаёмым.

Узнікае думка, што дзяржава хоча стаць манапалістам у свінаводстве. Пасля таго, што здарылася з маёй гаспадаркай, цяжка думаць, што кагосьці хвалююць інтарэсы чалавека, інтарэсы фермера.

У мяне такое ўражанне, што на самым версе, у Мінску, у нечай галаве спантанна ўзнікла ідэя: мы зараз наладзім экспарт свініны ў Расію ці куды там яшчэ, заробім шалёныя грошы і будзем малайцамі. Але куды ідуць грошы ад прададзенай у Расіі свініны, пра гэта ні фермеры, ні іншыя людзі ведаць не ведаюць. Можа, з гэтай задумы пакуль нічога не атрымліваецца?..

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

АД ПЕРШАЙ АСОБЫ

# Польскія візы: сітуацыя можа пагоршыцца

*У Беластоку завяршыўся Усходні эканамічны форум, які праходзіў два дні і сабраў у сталіцы Падляшша палітыкаў, эканамістаў, прадпрымальнікаў з Польшчы і Усходняй Еўропы. Сярод гасцей гэтага форуму быў і амбасадар Рэспублікі Польшча ў Беларусі* ***Лешак ШАРЭПКА,*** *які даў інтэрв'ю польскаму Радыё “Рацыя”.*



**— Наколькі важная такая сустрэча для Беларусі і самой Польшчы?**

— Перадусім для Падляшша вельмі важны гэты эканамічны кангрэс. Прыклад узяты з Катавіцэ, дзе праходзіць Еўрапейскі эканамічны кангрэс. Я думаю, што калі гэты форум будзе развівацца, то ў будучыні будзем мець вельмі цікавую імпрэзу. Гэты кангрэс стане месцам для сустрэч бізнесменаў, мясцовых улад, палітыкаў. І вынік можа быць пазітыўны — зацікаўленне гэтым рэгіёнам, Падляшшам, інвеставанне.

Лічу, што найлепшым партнёрам была б тут Беларусь, якая ў час гэтага першага кангрэса не была шырока прэзентавана.

**— Апошнім часам заўважана інтэнсіфікацыя кантактаў афіцыйнага Мінска з еўрапейскімі чыноўнікамі і афіцыйнай Варшавай. Ці можна казаць, што пасля некалькіх гадоў пахаладання ў беларуска-польскіх стасунках адбываецца пацяпленне?**

— Не ведаю, ці можна назваць гэта адлігай. Пачалося ўсё з саміту Усходняга партнёрства ў Вільнюсе, калі сустрэліся Сікорскі і Макей. Гэта была першая сустрэча на найвышэйшым узроўні цягам апошніх трох-чатырох гадоў. Цяпер вяртаемся да цыклічных сустрэч на высокім узроўні. Чакаем у найбліжэйшай будучыні адказны візіт нашага віцэ-міністра замежных спраў, які адказвае за ўсходнюю палітыку. Нагадаю, спадарыня Алена Купчына (намесніца міністра замежных спраў Беларусі) была ў чэрвені гэтага года ў Варшаве. Таксама ў гэтым годзе плануем правесці сустрэчу Міжурадавай камісіі, якая займаецца гаспадарчым супрацоўніцтвам. У ліпені рушыла з месца пасля некалькіх гадоў пэўнага застою Камісія па справах транспамежнага супрацоўніцтва.

Хачу нагадаць таксама, што ўмовы, пастаўленыя Еўрасаюзам перад Беларуссю, надалей актуальныя. Мы не забываем пра іх. Але вядома, што, каб дайсці да пэўнага кансэнсусу, трэба размаўляць. І мы стараемся гэта рабіць.

**— Прызначаная на пасаду прэм'ера Польшчы былы маршалак Сойма Эва Копач ужо прадставіла кіраўнікоў міністэрстваў. Міністэрства замежных спраў пакідае адзін з аўтараў палітыкі лібералізацыі дачыненняў Варшавы і Еўропы з Мінскам у 2008—2010 гадах спадар Радаслаў Сікорскі. Пасля прэзідэнцкіх выбараў якраз міністр Сікорскі першы выступіў з вострай крытыкай брутальнага разгону паслявыбарчай акцыі пратэсту. І Аляксандр Лукашэнка не раз згадваў міністра Сікорскага ў сваіх выказваннях. Ці пасля прызначэння новага міністра Гжэгажа Схэтыны можна чакаць далейшай інтэнсіфікацыі на лініі Мінск—Варшава?**

— Хачу звярнуць увагу, што спадар Радаслаў Сікорскі быў сем гадоў міністрам замежных спраў. Гэта рэкорд у гісторыі нашай краіны. А тое, што зараз змяніў пасаду, — гэта аванс. Бо ён робіцца другой асобай у краіне. Думаю, ён будзе мець і надалей уплыў у развіцці дачыненняў з Беларуссю.

Калі казаць пра новага міністра замежных спраў Гжэгажа Схэтыну, то тут проста патрэбны час. Я не думаю, што гэта была нейкая радыкальная змена. Я сказаў бы так: асобы змяняюцца, а інтарэсы застаюцца.

**— Думаю, што большасць грамадзян Беларусі, калі б мелі магчымасць задаць вам пытанне, запыталіся б пра візы. Ці ведаеце, на якім этапе знаходзяцца перамовы пра спрашчэнне візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС? Можа, разглядаецца пытанне адмены гэтых віз?**

— Калі казаць пра Еўрасаюз і Беларусь у плане лібералізацыі візавай палітыкі, то абодва бакі дэкларуюць, што будуць прыкладаць намаганні, каб вырашыць гэтае пытанне да саміту Усходняга партнёрства, які пройдзе ў маі наступнага года ў Рызе. Мне цяжка сказаць, ці рэальна гэта зрабіць. Але гаворка ідзе пра паніжэнне коштаў віз і павелічэнне катэгорый асоб, якія могуць атрымаць візы бясплатна.

Дарэчы, на мінулым тыдні ў Варшаве прайшлі кансультацыі па гэтым пытанні паміж Польшчай і Беларуссю. Вядома, што Польшча выдае рэкордную колькасць віз беларусам. У мінулым годзе намі было выдадзена 350 тысяч віз. Думаю, у гэтым годзе будзе яшчэ больш. Гэта адбываецца дзякуючы вялікім намаганням консулаў. І тут таксама хачу звярнуць увагу, што са студзеня будучага года мы мусім увесці біяметрычныя візы. Гэта значыць, што выданне адной канкрэтнай візы будзе займаць больш часу, чым цяпер. Дзесьці ў два разы больш. І калі да таго часу мы не знойдзем механізму, каб вырашыць гэтую праблему, то ў наступным годзе можа скласціся такая сітуацыя, што атрымаць візу будзе яшчэ складаней. Колькасць выдадзеных віз можа зменшыцца нават напалову.

**— Вядома, што візавае пытанне — гэта пакуль аддаленая перспектыва. І вырашаецца яно перадусім паміж Мінскам і Бруселем. А цяпер пытанне, якое тычыцца непасрэдна Польшчы і Беларусі. Ці плануюцца нейкія змены на беларуска-польскай мяжы ў плане інфраструктуры? Калі наконт “Кузніцы” і “Полаўцаў” пытанняў няма, то ў “Баброўніках” і “Тэрэспалі” аднапалосны рух праз Свіслач і Буг усё ж стварае праблемы для перасячэння мяжы…**

— Планы, канешне, ёсць. І ўжо цягам доўгага часу. Але тут справа ў іншым. Каб вырашаць такія пытанні, мы мусім мець законную аснову, пэўную базу законаў і дамоў. Пакуль жа мы дзейнічаем паводле дамовы 1961 года (гэта яшчэ савецкія часы). Яна ўжо не адпавядае рэальнай сітуацыі. Ідзе праца па падрыхтоўцы новай дамовы. Таксама падрыхтавана адмысловая дамова пра ўтрыманне памежных мастоў і чыгуначных шляхоў. Без яе пакуль нічога немагчыма зрабіць, бо яна акрэслівае абавязкі кожнага з бакоў. Таксама патрэбна дамова, якая тычылася б памежных рэк. Бо гэта таксама важны момант, калі казаць пра пашырэнне памежнай інфраструктуры.

Я ведаю, што многія чакаюць і хочуць, каб мяжа была даступнай, тым больш што гэта мяжа не толькі паміж Беларуссю і Польшчай, але і паміж Еўрасаюзам. Таму хочацца, каб перасячэнне мяжы сапраўды праходзіла хутчэй. Але, каб да гэтага дайшло, мы мусім распрацаваць законную базу. Дзеля гэтага ўжо ўзгаданая транспамежная камісія мусіць часцей сустракацца, рэгулярна размаўляць паміж сабой. І я цешуся, што ўрэшце гэтая камісія разварушылася, пачала працаваць. Цяпер трэба даць час юрыстам.

**— Год таму польскі бок пачаў мадэрнізацыю памежнага пераходу ў Кузніцы, каб даць магчымасць пешаходам пераходзіць у адзін і другі бок. Пры гэтым беларускі бок увёў пешаходны пераход без аніякай мадэрнізацыі. А цяпер маем паведамленне ад прэс-сакратара Дзяржаўнага памежнага камітэта Аляксандра Цішчанкі, што з 1 кастрычніка пешы рух спыняецца з прычыны мадэрнізацыі пераходу. Ці толькі ў мадэрнізацыі прычына?**

— На маю думку, так. Бо калі прыгадаць гісторыю, то беларускі бок ініцыяваў пешы рух. Мы ўстрымліваліся ад увядзення такога руху і аргументавалі тым, што для гэтага мусяць быць адмысловыя пераходы, якія будуць бяспечнымі як для тых, хто пешшу пераходзіць мяжу, так і для супрацоўнікаў памежнай службы. Беларускі бок не задумваўся, відаць, над гэтым. І, як аказалася, калі няма адпаведных забеспячэнняў, то людзі могуць лёгка трапіць пад машыну, бо няма адведзеных для іх месцаў. Таму гэта рашэнне, думаю, прынята з думкай пра бяспеку людзей. Пачакаем.

**— Польскае Міністэрства замежных спраў пры дапамозе розных праграм спрыяе прасоўванню польскай культуры ў Беларусі і беларускай — у Польшчы. Што, на вашу думку, можна было б яшчэ зрабіць для таго, каб суседнія народы, якія стагоддзямі жылі разам, ізноў пачалі цікавіцца адзін адным і ўзаемна адкрываць сябе?**

— Я думаю, што тут вялікае значэнне маюць сістэматычныя і паглыбленыя дыялогі гісторыкаў. І з таго, што ведаю, у гэтым зацікаўлены беларускі бок.

Чаму важныя гэтыя дыялогі гісторыкаў? Мы маем розныя падыходы да мінулага. Розныя рэчы нас цікавяць, розныя даты для нас важныя. І часам даходзіць да парадаксальнай сітуацыі, калі, напрыклад, у Польшчы святкуюць гадавіну Бітвы пад Оршай, якая мае большае значэнне не столькі для нашай гісторыі, колькі для гісторыі ВКЛ. Мы выдалі па-беларуску адмысловы нумар часопіса “Mowia Wieki”. А беларускі бок не быў вельмі зацікаўлены ў гэтым, нягледзячы на тое, што гэтая падзея была важнай і вырашальнай у многім для беларускай гісторыі. Таму тут розныя падыходы да гісторыі. А без супольнага падыходу да такога кшталту падзей цяжка будзе размаўляць.

**Гутарыў Зміцер КОСЦІН.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Злодзей ці стрэлачнік?*

*Сёння ў Мінскім абласным судзе павінен пачацца працэс над былым гендырэктарам “Барысаўдрэва” Уладзімірам Мальцавым. Абяцаюць, што справа будзе слухацца ў адкрытым рэжыме.*

Малады кіраўнік быў арыштаваны ў сакавіку гэтага года. Ён абвінавачваецца па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Беларусі — злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, якое мела цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры. Калі дакладней, Уладзіміру Мальцаву інкрымінуюць нанясенне шкоды прадпрыемству на суму звыш 18 мільярдаў рублёў у ходзе выканання дзяржпраграмы мадэрнізацыі. Таксама сярод наступстваў дзеянняў гендырэктара — зрыў тэрмінаў па рэалізацыі дзяржаўнай праграмы па мадэрнізацыі.

Калі абвінавачанне будзе даказана ў судзе, Уладзіміру Мальцаву пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі.

Нагадаем, што ў лістападзе мінулага года, калі Аляксандр Лукашэнка наведваў прадпрыемства, называліся зусім іншыя прозвішчы вінаватых у зрыве праграмы мадэрнізацыі прадпрыемства. Тады за неналежнае выкананне даручэнняў кіраўніка дзяржавы па мадэрнізацыі вытворчасці “Барысаўдрэў” ад пасады старшыні Мінаблвыканкама быў вызвалены Барыс Батура, Аляксандр Пераслаўцаў пазбавіўся пасады старшыні канцэрна “Беллеспаперпрам”, Андрэй Тур — намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Строгія вымовы атрымалі кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў, старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон і старшыня Барысаўскага райвыканкама Уладзімір Мірановіч. (Якабсон у сувязі з іншымі абставінамі пазней з пашанай быў пераведзены на іншую пасаду.) Ці будуць выкліканы гэтыя асобы на суд хаця б у якасці сведак, не вядома. Але справа ў любым выпадку абяцае быць гучнай.

### ДА ВЕДАМА



Паводле дадзеных Камітэта дзяржаўнага кантролю, на пачатак 2014 года кошт мадэрнізацыі ААТ “Барысаўдрэў” павялічыўся ад першапачатковага на 6,8 мільёна долараў.

Нагадаем, што маштабная мадэрнізацыя беларускай дрэваапрацоўкі была распачата яшчэ ў 2007 годзе. Усё планавалася завяршыць у 2009 годзе, а ў 2010-м беларускія ўлады павінны былі ўжо падлічваць даходы ад рэалізацыі на знешнія рынкі прадукцыі з высокім дадатковым коштам. Усяго планавалася мадэрнізаваць дзевяць прадпрыемстваў: ААТ “Барысаўдрэў”, ААТ “Віцебскдрэў”, ААТ “Магілёўдрэў”, ААТ “Фандок”, РВУП “Мазырскі дрэваапрацоўчы камбінат”, ААТ “Рэчыцадрэў”, ААТ “Гомельдрэў”, ААТ “Мастоўдрэў”, ААТ “Івацэвічыдрэў”. Ні на адным з гэтых прадпрыемстваў мадэрнізацыя не прайшла так, як планавалася. У агульным ліку кошт мадэрнізацыі вырас прыблізна ў тры разы, а сама мадэрнізацыя на многіх прадпрыемствах не завершана і па сённяшні дзень.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

АФІЦЫЙНА

## *Бывайце, грошыкі!*

### *Нацбанк выводзіць з абарачэння купюры наміналам 50 рублёў*

*“З 1 студзеня 2015 года спыняецца выпуск у абарачэнне банкнот Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь наміналам 50 рублёў узору 2000 года, а таксама банкнот названага наміналу мадыфікацыі 2010 года”,* — паведамляе прэс-служба Нацыянальнага банка. Як адзначаецца, *“такое рашэнне прынята, зыходзячы з немэтазгоднасці далейшага выкарыстання названых банкнот у наяўным грашовым абарачэнні і ў мэтах скарачэння дзяржаўных выдаткаў на іх выраб”.*

Згодна з рашэннем, да 1 ліпеня 2015 года банкноты Нацыянальнага банка наміналам 50 рублёў падлягаюць прыёму пры ўсіх відах плацяжоў усімі суб'ектамі гаспадарання, у тым ліку і банкамі Рэспублікі Беларусь. А вось з 1 ліпеня банкі і суб'екты гаспадарання спыняць выдачу названых банкнот, у тым ліку ў якасці рэшты. Пры гэтым прыём банкнот наміналам 50 рублёў банкамі ад суб'ектаў гаспадарання будзе ажыццяўляцца да 1 верасня.

Абмен банкнот наміналам 50 рублёў можна будзе зрабіць без абмежаванняў і без спагнання камісійнага ўзнагароджання ў любой суме, кратнай 100 рублям. У прыватнасці, гэта можна будзе зрабіць у перыяд з 1 ліпеня па 31 снежня ў Нацбанку і банках краіны. А ў першым паўгоддзі 2016 года — толькі ў галоўным банку краіны.

ЖАХ!

# 252 п'яныя кіроўцы затрыманы ў краіне за мінулыя выхадныя

*У пятніцу па віне аднаго такога кіроўцы загінулі адразу два пенсіянеры*

Жудаснае ДТЗ адбылося ў Мінску. П'яны малады чалавек урэзаўся ў прыпынак па вуліцы Ясеніна. 61-гадовая мінчанка сканала на месцы, а 67-гадовы пенсіянер памёр у рэанімацыі. Потым на допыце кіроўца-забойца расказваў: “Выпіў піва, паехаў на сваім БМВ у краму. Ехаў на невысокай хуткасці, не справіўся з кіраваннем, хацеў у слуп, але атрымалася ў прыпынак”.





Самае страшнае, што п'яным малады чалавек сеў за руль не ўпершыню. *“У чэрвені 2011 года кіроўца БМВ быў пазбаўлены правоў за кіраванне аўтамабілем у стане алкагольнага ап'янення,* — расказаў журналістам афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў. — *У чэрвені 2014-га ён вярнуў правы, аднак праз чатыры дні пасля гэтага зноў быў затрыманы ў нецвярозым стане і зноў пазбавіўся правоў”.*

І вось зараз — трагедыя. За забойства двух чалавек п'янаму кіроўцу пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі. Родам ён з Магілёўскай вобласці, але жыў у Мінску, нідзе не працаваў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

У ТЭМУ

# І што з такімі рабіць?

*У Гродне інспектары затрымалі п'янага бяспраўніка. У будынку ДАІ, куды яго даставілі, мужчына... заснуў.*

— 25-гадовы малады чалавек адзначаў свой дзень нараджэння ў адным з начных клубаў Гродна, — паведамляе ДАІ рэгіёна. — Там ён пазнаёміўся з дзяўчынай, і разам яны паехалі працягваць гулянку. Супрацоўнікі ДАІ звярнулі ўвагу на аўтамабіль Daewoo. Параўняўшыся з аўто, інспектары зразумелі, што за рулём неадэкватны кіроўца. Яны ўключылі праблісквавыя маячкі і запатрабавалі спыніцца, аднак спыніўся малады чалавек не адразу, а толькі праз некалькі сотняў метраў, калі перашкоду для яго руху стварыў Opel, які ехаў наперадзе. Кіроўца быў дастаўлены на медагляд. Утрыманне алкаголю ў арганізме мужчыны больш чым у пяць разоў перавысіла дапушчальную норму. Таксама высветлілася, што затрыманы не меў правоў. Але п'яны бяспраўнік настолькі не хваляваўся, што падчас разбору... заснуў прама ў вестыбюлі будынка ДАІ.



ПРОБЛЕМА!

# Ежегодно выносится более тысячи постановлений о принудительном лечении от туберкулеза

*Проблема туберкулеза в Беларуси давно вышла за рамки медицинской, говорят специалисты, а наибольшая угроза для общества исходит от людей, которые отказываются от лечения.*



Начиная с 2005 года борьба с туберкулезом в Беларуси ведется в рамках государственных программ, что предполагает целевое бюджетное финансирование.

Появились новые протоколы лечения, реконструированы лаборатории, назначение препаратов для лекарственно устойчивых форм происходит только консилиумом, а лечение вне стационара — только под контролем медиков. Поддержку с 2008 года оказывает Глобальный фонд для борьбы со СПИДом, туберкулезом и малярией. Средства фонда (36 млн долларов с 2008 года) расходуются на закупку препаратов, в том числе не зарегистрированных в Беларуси, социальную поддержку больных туберкулезом.

Вместе с тем ежегодно выявляется более 3600 больных туберкулезом. Теперь на учете состоят 5700 человек, которые болеют открытой формой, то есть выделяют бактерии. Из них, рассказал директор Республиканского научно-практического центра пульмонологии и фтизиатрии **Геннадий Гуревич**, 4000 болеют лекарственно устойчивой формой.

Это означает, что такие пациенты лечатся не шесть месяцев, как в случае с обычным туберкулезом, а два года. Лекарства им нужны дорогие, побочные эффекты сильнее, а заражают других такие больные как раз устойчивой формой туберкулеза.

Эффективность лечения этой формы составляет 70%. *“Лекарственно устойчивый туберкулез — это не приговор. Шансы вылечиться достаточно высоки, но при соблюдении схемы лечения”,* — сообщил Гуревич.

Однако здесь все зависит от приверженности к лечению. Пока больной находится в стационаре, эффективность лечения туберкулеза с множественной лекарственной устойчивостью остается вполне соответствующей международным стандартам — 70%. Однако когда через полгода человека выписывают, к концу лечения эффективность снижается до 50%. Геннадий Гуревич это объясняет как раз несоблюдением схемы и перерывами в лечении.

*“Гигантские средства уходят в песок. У больного формируется устойчивость к тем препаратам, которыми он не долечился. Мы вынуждены назначать другие, подбирая новую схему лечения. И снова тратятся деньги и время”,* — сказал директор РНПЦ.

## Почему больные отказываются от лечения?

Многие тяжело переносят лечение. По воздействию на организм оно подобно химиотерапии при лечении рака. Побочные эффекты врачи пытаются смягчить, но выдерживают далеко не все.

Кроме того, среди больных туберкулезом много тех, кто злоупотребляет спиртным, ведет асоциальный образ жизни. Таким людям вообще не до забот о здоровье, а выписку из стационара они порой воспринимают как долгожданную свободу со всеми вытекающими последствиями.

Однако и после выписки необходимо под контролем медиков продолжать лечение. То, в каком виде оно будет проходить, оговаривается еще в стационаре, отметил Геннадий Гуревич. Есть случаи, когда таблетки приносят на дом, чаще пациент ходит за ними в поликлинику или ФАП — 6 раз в неделю. На руки лекарства не выдаются.

В международной практике широко и достаточно эффективно используется поощрение успешно проходящих лечение больных в виде социальной поддержки.

И у нас пациентам выдаются продуктовые наборы и проездные билеты. На это идут средства Глобального фонда, но их хватает только для трети пациентов. Остальных могло бы поддержать государство, и средства на это есть, однако, отметил Геннадий Гуревич, в системе Минздрава нет соответствующего механизма. Его только планируется разработать.

## Туберкулез за колючей проволокой

Есть проблема распространения туберкулеза бывшими заключенными, хотя заболеваемость в учреждениях пенитенциарной системы также снижается и сейчас составляет 247 случаев на 100 тыс. человек, но это в 6,5 раза больше, чем среди населения в целом. Для сравнения: в 2008 году показатель заболеваемости туберкулезом среди осужденных составил 303,6, а среди населения в целом — 45,3 случая. В 1997 году заболеваемость составляла более 1 тысячи случаев на 100 тысяч заключенных. Тогда в Беларуси около 20% больных туберкулезом являлись заключенными.

Снижение заболеваемости среди заключенных Геннадий Гуревич объяснил улучшением медицинского обслуживания и условий содержания. Вместе с тем за колючей проволокой существует проблема немотивированности к лечению туберкулеза и сохранению здоровья. Больные имеют определенные льготы: например, диагноз “туберкулез” среди прочего является основанием для амнистии. В результате зафиксированы случаи, когда заключенные для улучшения условий содержания или попадания под амнистию умышленно заражались туберкулезом.

Согласно договоренности между Минздравом и МВД, медиков уведомляют о том, что больной туберкулезом покидает место заключения. Если он дает согласие на лечение, больного перевозят в учреждение здравоохранения на специальном медицинском транспорте. Однако многие пациенты отказываются от лечения.

Согласно принятому в 2012 году закону “О предупреждении распространения заболеваний, представляющих опасность для здоровья населения, вируса иммунодефицита человека”, суд может обязать больного туберкулезом лечиться, однако *“это требует времени”.*

Ежегодно суды выносят более тысячи постановлений о принудительном лечении. Многие больные после вынесения такого решения скрываются, даже уезжают из страны. Поиск таких людей очень сложен, тем более что среди них есть лица без определенного места жительства.

**Елена СПАСЮК.**

ПАЗІЦЫЯ

*Людміла УЛЬЯШЫНА:*

# «Грамадскі дыялог немагчымы без павагі да годнасці і правоў чалавека»

*У Беларускім доме правоў чалавека імя Барыса Звозскага ў Вільнюсе адбыўся чарговы выпуск навучэнцаў адукацыйнай праграмы Сеткі дамоў правоў чалавека “Міжнароднае права для абароны грамадскіх інтарэсаў”. Выпускнікоў павіншавала кіраўніца і эксперт праграмы, магістр міжнароднага права Людміла Ульяшына (Осла, Нарвегія). У мінулым годзе ў Вільнюсе выйшла яе кніга “Міжнародна-прававыя стандарты ў галіне правоў чалавека і іх рэалізацыя: тэорыя і практыка прымянення”. У інтэрв’ю аглядальніку “Народнай Волі” менеджар праграмы распавяла пра яе вынікі і актуальныя праблемы абароны правоў чалавека.*

## Праграма стварае айчынную школу праваабаронцаў

Упершыню ідэя праграмы ўзнікла ў 2004 годзе на канферэнцыі ў Осла пасля выступлення старшыні ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” Жанны Літвіной, якая гаварыла пра парушэнне правоў грамадзян на Беларусі. На маё пытанне пра тое, чаму ў Камітэт ААН па правах чалавека (КПЧ) не паступаюць скаргі з Беларусі, спадарыня Літвіна адказала, што не хапае спецыялістаў у гэтай галіне і што ў краіне ёсць такі “дзівак”, праваабаронца Барыс Звозскаў, які ўвесь час толькі і гаворыць пра неабходнасць стварэння нейкай праваабарончай школы. Тады мы і пазнаёміліся са Звозскавым і пачалі рабіць праект праграмы па адукацыі праваабаронцаў і адвакатаў дзеля прымянення нормаў міжнароднага права на нацыянальным узроўні, а таксама па падрыхтоўцы зваротаў у Канстытуцыйны суд Беларусі і КПЧ.



І сёння праграма, што працуе з ліпеня 2006-га, даказала сваю каштоўнасць. Мае калегі з Сеткі дамоў правоў чалавека бачаць, што адвакаты, каго заўсёды лічылі па-за межамі праваабарончага поля, на самай справе прафесійныя абаронцы чалавека, асабліва калі яны навучаны падыходам і інструментам з новай галіны права — права правоў человека. У такой сітуацыі яны і праваабаронцаў с разуменнем абараняюць, і самі робяцца і праваабаронцамі, і праваасветнікамі ў судах, дзе нікога іншага да трыбуны судовых пасяджэнняў не дапускаюць. Такіх адвакатаў пакуль не так шмат. Але іх прафесіяналізм і кампетэнцыя — гэта рэсурс, які пакрысе робіць уплыў на прававую сістэму.

Нашы выпускнікі могуць навучаць студэнтаў-юрыстаў весці сапраўдныя судовыя справы з выкарыстаннем лепшых прававых стандартаў. Апроч таго, з амаль 150 выпускнікоў курсаў вылучылася цудоўная група беларускіх экспертаў, у якую ў тым ліку ўваходзяць юрыстыўпраўленцы Дзіна Шаўцова і Алег Агееў. Такім чынам, праграма спрыяе стварэнню беларускай праваабарончай школы.

## Што можа даць праграма палітыкам і журналістам?

Я за тое, каб усе палітыкі, у тым ліку і будучыя апазіцыйныя, ведалі дактрыну правоў чалавека, а таксама тое, у якіх пытаннях яны абавязаны абапірацца на меркаванне экспертаў у галіне правоў чалавека. Так, у Дзяржаўным нафтавым фондзе Нарвегіі ёсць супрацоўнік, які сочыць за тым, каб інвестыцыі з фонду не ішлі ў краіны і на тыя формы дзейнасці, якія парушаюць правы чалавека. І калі такое фінансаванне выяўляецца, яно закрываецца, каб не скампраметаваць Нарвегію.

Трэба мець на ўвазе, што дактрына правоў чалавека не вельмі простая і яе разумеюць адзінкі з палітыкаў. Звычайны погляд на правы чалавека зводзіцца да абароны ўседазволенасці альбо да бясконцай крытыкі дзяржавы без усялікіх абгрунтаваных канструктыўных прапаноў. На самай жа справе дактрына правоў чалавека ўяўляе сабою даволі зладжаную сістэму нормаў, палажэнняў і падыходаў, якая гаворыць пра баланс прыярытэтаў: калі дзяржава павінна ўмешвацца ў нешта, а калі — устрымлівацца, калі заканадаўства павінна выразна регуляваць тое ці іншае пытанне, а калі — пакінуць сітуацыю на развіццё і паглядзець, як вырашаецца гэтае пытанне ў судовай практыцы.

З другога боку, веданне дактрыны правоў чалавека дапамагае палітыкам завастраць пытанні і правільна выбіраць фокус праблемы. Так, нядаўна я гутарыла з расійскай даследчыцай, якая высвятляе пытанне пра тое, як дзяржава павінна легітымізаваць прысутнасць царквы ў палітыцы, каб прывесці ў адпаведнасць нормы Канстытуцыі і заканадаўства да сітуацыі дэ-факта. У сапраўднай дэмакратычнай прававой дзяржаве пры вырашэнні гэтага пытання даследчыкі і чынавенства павінны ў першую чаргу зыходзіць з інтарэсаў асобы. І трэба адмовіцца ад нейкіх змен, калі яны могуць парушыць правы чалавека. Бо менавіта такі падыход на практыцы будзе нашмат больш рацыянальным і эфектыўным.

Што тычыцца журналістаў, дык знаёмства з канцэпцыяй правоў чалавека дазволіць ім дакладна ставіць пытанні пры выкладанні праблемы, звярнуць увагу на тое, у якіх выпадках чалавек павінен бараніць сябе, а калі — агульныя інтарэсы грамадства, маралі і навакольнага асяроддзя. Калі ж у журналіста з-за недахопаў у выхаванні і адукацыі адсутнічае разуменне балансу прыярытэтаў чалавека і дзяржавы, яму будзе даволі складана правільна выбраць фокус праблемы. Бо, калі мы бачым, што парушаецца годнасць чалавека, дзейнасць дзяржавы ацэньваецца не проста з суб’ектыўнага меркавання журналіста, а з пазіцый каштоўнасці чалавечай годнасці. Менавіта яна з’яўляецца не толькі важным крытэрыем для кожнага, але і прыкметай спеласці грамадства.

Такім чынам, праграма можа прывіць палітыкам і журналістам гуманістычную культуру правоў чалавека — аснову грамадскага дыялогу.

## Разумная дзяржава будзе слухаць сваіх праваабаронцаў

Для тых, хто абараняе правы чалавека, праграма дае інструментарый міжнароднага і канстытуцыйнага права. Гэты інструментарый заснаваны на канцэпцыі ўніверсальнасці правоў чалавека, якая сцвярджае, што кожны чалавек мае годнасць. Канцэпцыя грунтуецца на пэўных правах, каб чалавек мог рэалізавацца як асоба і ўзвысіцца, а не пераўтварыцца ў істоту, якая не можа лічыцца homo sapiens. І сам пералік гэтых правоў універсальны, бо нельга адмовіць чалавеку ў праве на жыццё, на працу і на мову. І міжнароднае права прадастаўляе арсенал сродкаў, якія дазваляюць не змагацца з дзяржавай, а бараніць аднаго чалавека, у жыцці якога адлюстроўваюцца ўсе праблемы грамадства. Вось чаму, калі юрыст прыходзіць у суд, ён застаецца ў прававым полі і выкарыстоўвае тыя аргументы, якія дазваляюць аспрэчыць нацыянальны закон у выпадку яго неадпаведнасці міжнародным стандартам.

Гэтыя ўніверсальныя стандарты, што ўяўляюць сабою сутнасць права (як нормы справядлівага судовага разбору, свабоды слова, незалежнасці адваката ў працэсе і тайны яго нарады з кліентам), вызначаны ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, замацаваныя ў практыцы Еўрапейскага суда па правах чалавека і КПЧ. І веданне праваабаронцамі, адвакатамі і юрыстамі прававых стандартаў робіць больш канструктыўнай іх крытыку дзяржавы і заканадаўства, бо гэтая крытыка ўтрымлівае і слушныя прапановы. А разумная дзяржава дзеля ўстойлівага развіцця грамадства слухае сваіх праваабаронцаў і дае магчымасць прэсе выказваць свае крытычныя заўвагі.

## І грамадства павінна крытычна ставіцца да сябе

Працэс засваення культуры правоў чалавека шматгранны і шматузроўневы. Безумоўна, прасцей за ўсе патрабаваць змен ад дзяржавы. І яна павінна крытыкавацца з усіх бакоў і пазітыўна ўспрымаць такую крытыку. Але і грамадства павінна быць крытычным да сябе, бо, каб жыць у бяспечнай, дэмакратычнай і вольнай краіне, неабходна штодня клапаціцца пра тое, каб дзяржава ведала сваё месца. Бо дзяржава па сваёй прыродзе і сваімі дзеяннямі імкнецца ўшчаміць правы чалавека.

Нездарма на студэнтаў-правазнаўцаў у нямецкіх універсітэтах ускладваецца абавязак сістэматычна крытыкаваць дзяржаву і ўмець абгрунтаваць у канстытуцыйнай скарзе, да чаго зводзіцца дапушчанае дзяржавай парушэнне сутнасці права чалавека. І так павінны рабіць не толькі нямецкія студэнты. Нямеччына і цэлы свет заплацілі вельмі высокі кошт за тое, што юрысты кіраваліся выключна нацыянальнымі законамі, адмятаючы ўсялякія разважанні пра натуральнае права, гуманнасць, чалавека. Сёння Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека з’яўляецца канстытуцыяй і стандартам. Яна абараняе чалавека, і яе патрэбна ведаць, каб не дапусціць адраджэння дзяржаў, якія кіруюцца выключна нацыянальнымі інтарэсамі.

## Асабістыя матывы ў абароне правоў чалавека

Мой асабісты лёс мае непасрэднае дачыненне да маёй сённяшняй прафесійнай дзейнасці. Сама я родам з Ашмян (самага цудоўнага мястэчка ў свеце!). І пасля заканчэння юрфака БДУ 20 год займалася адвакатурай у Мінску. Пасля распаду СССР узнікла даволі вострая праблема, бо адвакаты засталіся сам-насам з Вярхоўным судом і Генеральнай пракуратурай Беларусі без усялякай магчымасці накіраваць наглядную скаргу ў Маскву і надзеі знайсці там аб’ектыўны погляд. Мне падалося, што тут адбываецца нешта нелагічнае і павінен быць нейкі міжнародны стандарт. І тады я вырашыла вывучаць міжнароднае права спачатку ў Нямеччыне, а потым у Нарвегіі. Гэта дапамагло мне сфарміраваць свой погляд на ролю адвакатаў і юрыстаў у абароне правоў чалавека, а таксама распрацаваць курс дыстанцыйнага навучання міжнароднаму праву правоў чалавека.

**Марат ГАРАВЫ.**

ЖЫЦЦЁ

## *Не купляюць беларускае?*

*Міністэрства гандлю прапанавала аднавіць у 2015 годзе льготнае спажывецкае крэдытаванне фізічных асоб для набыцця айчынных тавараў.*

Як вядома, са жніўня 2009 года некаторыя беларускія банкі выдавалі грамадзянам ільготныя крэдыты на спажывецкія патрэбы для набыцця ў гандлёвых аб’ектах тавараў па пераліку, які вызначаецца Саветам міністраў. Пры гэтым крэдытаванне ажыццяўлялася з бюджэтнай падтрымкай у выглядзе кампенсацыі банкам страт, звязаных з выдачай такіх крэдытаў.

Пастановай Савета міністраў Беларусі ад 1 жніўня 2009 года №1010 быў вызначаны пералік тавараў, на набыццё якіх даюцца крэдытныя рэсурсы. Ён уключаў 55 таварных пазіцый, у тым ліку будаўнічыя матэрыялы, бытавую тэхніку, вырабы сантэхкерамікі, мэблю, адзенне і іншыя тавары.

У маі 2011 года льготнае крэдытаванне было прыпынена.

ДА ВЕДАМА!

## *Пешшу нельга*

*З 1 кастрычніка ў аўтадарожных пунктах пропуску на мяжы з Латвіяй, Літвой і Польшчай часова спыняецца пешаходны рух, паведамілі ў Дзяржпагранкамітэце Беларусі.*

*“Сумежныя дзяржавы ўжо папярэджаны ўстаноўленым парадкам. Гэта рашэнне абумоўлена адсутнасцю ў беларускіх пунктах пропуску неабходнай інфраструктуры для пешаходнага руху: асобных пешаходных калідораў, асобных тэрміналаў мытнага і памежнага афармлення. Зараз гэта не гарантуе неабходнага ўзроўню бяспекі пешаходаў і пастаянна стварае складаныя ўмовы дарожнай абстаноўкі ў пунктах пропуску, якія раней праектаваліся выключна як аўтадарожныя”,* — растлумачылі ў памежным ведамстве.

У камітэце дадалі, што гэтыя абставіны былі шматлікімі нагодамі для зваротаў і скаргаў грамадзян, у тым ліку замежных, а таксама крытычных публікацый у СМІ. Акрамя таго, неабуладкаванасць кропак кантролю пры росце папулярнасці гэтага спосабу перасячэння мяжы рэгулярна правакавала стварэнне чэргаў нават з пешаходаў.

ПАДЛІЧЫЛІ

## *Апраўдальны прыгавор: выключэнне, а не правіла*

У першым паўгоддзі гэтага года беларускімі судамі было апраўдана 57 чалавек. Такую статыстыку абнародаваў Вярхоўны суд Беларусі. І гэты пры тым, што ўсяго з вынясеннем прыгавора за гэты перыяд было разгледжана 19.804 справы. Да пазбаўлення волі былі асуджаны 4985 чалавек.

Цікава, што сярод асуджаных асоб 2221 чалавек атрымалі пакаранне за злачынствы супраць правасуддзя. Гэта значна больш, чым за карупцыйныя злачынствы (96), ці, напрыклад, за злачынствы, звязаныя з наркотыкамі (1667). Відавочна, што суддзі пільна стаяць на абароне сваіх інтарэсаў. Па крайняй меры цяжка патлумачыць нечым іншым такую дыспрапорцыю.

**Алег СНОЎ.**

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Правительство Беларуси готовит почву для экономических реформ

***В коридорах власти осознают, что в экономике существуют серьезные проблемы и с этим необходимо что-либо делать. По информации интернет-газеты Naviny.by, правительство утвердило в августе дополнительные меры к прошлогоднему плану по структурному реформированию экономики.***

Что собираются сделать белорусские власти? Удастся ли правительству устранить первопричины тех проблем, с которыми столкнулась национальная экономика? Ответы на эти и другие вопросы мы искали вместе с независимыми экспертами.



## Новый план правительства

Напомним, осенью прошлого года правительство и Национальный банк утвердили План совместных действий по структурному реформированию экономики. Осенний документ, как объяснял около года назад Минфин, был разработан в связи с тем, что в экономике *“угрожающими темпами нарастали дисбалансы”*. Чтобы устранить их и снизить нарастающее давление на золотовалютные резервы, власти с осени 2013-го проводили политику по ограничению госрасходов и снижению темпов кредитования экономики.

Однако весной этого года правительственным ведомствам стало очевидно, что необходимо принимать более решительные шаги для повышения эффективности экономики. Вскоре после этого (возможно, с подачи правительства) **Александр Лукашенко** озвучил в Овальном зале курс на “новую экономическую политику”. С тех пор госорганы, находящиеся в подчинении Совмина, стали готовить новый план мероприятий по реформированию экономики.

Как удалось выяснить интернет-газете *Naviny.by*, в августе правительство утвердило План мер по сбалансированному развитию экономики на 2014—2015 годы. Что принципиально нового в нем по сравнению с похожим документом, принятым осенью 2013-го?

Для населения будет интересно узнать задачу, которая ставится в части увеличения тарифов на жилищно-коммунальные услуги. Правительство планирует, что полностью возмещать затраты на оказание таких услуг население станет в 2017 году. К слову, в первом квартале текущего года население, по данным Министерства жилищно-коммунального хозяйства, покрывало установленными тарифами около четверти стоимости коммунальных услуг.

Для обеспечения сбалансированного развития экономики правительство ставит задачу обеспечить положительное сальдо торгового баланса в 2014—2015 гг. на уровне не менее 0,1% ВВП. К слову, в текущем году эта задача выполняется. Обеспечить положительное сальдо в нынешнем году удалось благодаря тому, что ряд импортоемких отраслей белорусской промышленности (в частности, машиностроение) снизили объемы производства. Как следствие, сократились объемы импорта, и это положительно сказалось на состоянии внешней торговли Беларуси.

Сбалансированное развитие белорусской экономики в последние годы сильно зависит от возможности страны рассчитываться по долгам, платежи по которым исчисляются в миллиардах долларов. Поэтому логично, что меры, касающиеся погашения долга, нашли отражение в новом плане властей.

По информации *Naviny.by*, августовский план правительства предусматривает, что вывозные таможенные пошлины на нефтепродукты (в размере 1,5 млрд долларов), которые Беларусь в 2015 году сможет зачислить в свой бюджет, будут направлены на погашение госдолга.

Кроме этого, предполагается, что на погашение госдолга могут быть привлечены средства за счет размещения на внешних рынках новых выпусков гособлигаций, а также посредством продажи коммерческим банкам валютных гособлигаций.

В общем, источники финансирования сбалансированного экономического развития в 2014—2015 гг. понятны. Средства от нефтепошлин плюс новые заимствования на внешнем и внутреннем рынках позволят, как предполагают власти, свести концы с концами и обеспечить экономическую стабильность в стране.

Впрочем, никто из белорусских экономистов сегодня и не сомневается в том, что ближайший год пройдет в стране без финансовых неурядиц — до президентских выборов, которые запланированы на осень 2015 года, экономические кризисы в стране немыслимы.

Куда меньше ясности с “новой экономической политикой”, которую власти объявили весной этого года и уже стали конкретизировать на бумаге — в принятом августовском Плане мер по сбалансированному развитию экономики.

## Косметический ремонт существующей модели

В принятом плане власти затрагивают некоторые принципиальные вопросы, касающиеся управления экономикой. В частности, предусматривается разделение функций государства как регулятора и собственника.

Смешение этих функций сегодня приводит к тому, что отраслевые ведомства (которые отвечают за развитие подведомственных предприятий) заинтересованы в поддержке госпредприятий в ущерб частному сектору. Такое положение дел не позволяет развиваться конкуренции в отраслях. Поэтому попытку экономических ведомств разделить функции государства как регулятора и как собственника можно только приветствовать.

Еще одна новация, которую предлагает сегодня правительство в принятом плане — пересмотр механизма оказания государственной поддержки. В настоящее время в стране существует множество госпрограмм, эффективность которых даже в госорганах вызывает серьезные вопросы. Мало этого, предприятия получают господдержку еще и в рамках индивидуальных решений властей, что распыляет и без того ограниченные ресурсы бюджета.

В общем, низкая отдача от госинвестиций вкупе с бюджетными ограничениями заставляет правительство пересматривать механизм распределения государственных денег.

По сведениям *Naviny.by,* правительство планирует передать решения о реализации государственных программ в исключительную компетенцию президента. Предполагается, что первое лицо должно будет определить приоритетные направления использования имеющихся государственных средств, а правительство ответит за техническую реализацию решений.

Кроме этого, экономические власти предлагают отказаться от индивидуальных форм господдержки предприятий и помогать реальному сектору только на конкурсной основе в рамках приоритетных госпрограмм, которые определит государство. В итоге, как ожидают экономические ведомства, эффективность господдержки вырастет.

Возможно, этого в какой-то мере действительно удастся добиться — за счет сокращения госпрограмм, путем ограничения прав госпредприятий обращаться за индивидуальной финансовой помощью. Однако большого прорыва в части повышения эффективности использования государственных средств вряд ли стоит ожидать, полагают эксперты.

*“Осознание проблемы, что государство в большинстве случаев не может быть субъектом, который эффективно определяет направление инвестиций, еще не пришло. Подход, который мы видим сегодня, основывается на руководящей и направляющей роли государства в инвестиционном процессе”,* — говорит экономист Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) **Дмитрий Крук**.

По его мнению, до тех пор, пока будет сохраняться директивное (определяемое государством) распределение финансовых ресурсов, серьезные экономические реформы в стране вряд ли начнутся.

*“Пока речь идет об осторожном и очень постепенном изменении механизмов функционирования белорусской экономики. По большому счету, мы сегодня наблюдаем косметический ремонт существующей экономической модели без изменения ее содержательных принципов”,* — отмечает Дмитрий Крук.

Главная “фишка” сегодняшних предложений правительства сводится к тому, что необходимо приложить максимальные усилия для повышения эффективности работы госсектора, который доминирует в белорусской экономике. В частности, августовский План мер по сбалансированному развитию экономики предусматривает разработку стратегий развития валообразующих госпредприятий с целью повышения их эффективности.

В свою очередь независимые экономисты полагают, что возможности властей по повышению эффективности госсектора весьма ограничены.

*“Госпредприятия, которые имеют преференциальный доступ к ресурсам (пример этого — нефтепереработка) либо занимают монопольное положение на рынке, могут показывать хороший финансовый результат. Однако ставка на госсектор в тех отраслях, где существует конкуренция на внутреннем либо внешнем рынках, вызывает сомнения”,* — полагает директор Исследовательского центра ИПМ **Александр Чубрик**.

По мнению эксперта, госпредприятия не обладают достаточной степенью гибкости и в условиях конкуренции им сложно работать эффективно.

Наблюдатели сравнивают сегодняшние попытки правительства повысить эффективность госсектора со второй половиной 1980-х годов, когда власти стремились вдохнуть новое дыхание в советскую экономическую систему.

*“Попытки административным образом сделать экономику эффективной предпринимались и ранее. Происходящее в Беларуси сегодня напоминает поздний Советский Союз, когда пытались усовершенствовать социалистическую систему, но ничем хорошим это не закончилось. История показала, что попытки косметическим образом улучшить административную экономику обречены на неудачу”,* — говорит финансовый аналитик официального партнера “Альпари” в Минске **Вадим Иосуб**.

Тем не менее именно косметический ремонт экономической модели мы сегодня наблюдаем в стране.

Когда же власти перейдут к серьезным реформам? Может быть, после выборов? Сказать сложно. По одной из версий, к реформам властей могут подтолкнуть провалы в экономике, которые уже приобретают хронический характер.

*“В последние годы мы “танцуем” с низкими темпами экономического роста. Если так будет продолжаться и дальше, это может стать стимулом для проведения реформ в стране. Когда внешние объяснения низких темпов экономического роста закончатся, придется искать причины в себе”,* — резюмировал Дмитрий Крук.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

УПЕРШЫНЮ!

# Аляксандра Герасіменя запрашае на «Мова CUP»

## *Уваходны квіток на фестываль — размаўляць па-беларуску*

*Першы нацыянальны фестываль “Мова CUP” пройдзе 28 верасня на тэрыторыі Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі, што ў Мінску на Каліноўскага, 111.*

Усім жадаючым будзе прапанавана паспрабаваць свае сілы ў розных відах спорту. У фестывальнай праграме спаборніцтвы па плаванні, лёгкай атлетыцы, стрытболе, бадмінтоне, барацьбе, мастацкай гімнастыцы, гіравым спорце і іншых.

Фронтменамі мерапрыемства выступяць вядомыя беларускія спартсмены, у іх шэрагу і ідэйная натхняльніца “Мова CUP” — плыўчыха **Аляксандра Герасіменя.**

— Па-першае, у гэты дзень мы ўсе будзем размаўляць на роднай беларускай мове, — гаворыць яна. — Па-другое, дадзім магчымасць федэрацыям і спартыўным клубам прадставіць свае віды спорту ў найлепшым ракурсе так, як яны самі палічаць патрэбным. Па-трэцяе, дзякуючы дапамозе шматлікіх спонсараў мы правядзём шмат турніраў, галоўным з якіх будзе карпаратыўны — сярод вядомых айчынных брэндаў у шасці камандных відах спорту. Па-чацвёртае, будзе проста весела — ва ўсялякім выпадку я гэта бачу па настроі людзей, якія арганізоўваюць наш фестываль — “Мова CUP”.

Пачатак мерапрыемства ў 10 гадзін.



ГОСУДАРСТВЕННАЯ ТЕМА

# Не отпихивайтесь от народа, и он сделает Беларусь процветающей

За моими плечами многие десятки лет работы в самых разных структурах. Каких только высоких слов не наслушался! Многие в одно ухо влетали, в другое вылетали. Но вот то, что произнес в своем Послании к белорусскому народу и Национальному собранию Александр Григорьевич Лукашенко в 2013 году, до сих пор забыть не могу. Он сказал: **"Чиновник должен быть народным, любить и уважать народ, а не отпихиваться от него".** Мудрые, глубокого смысла слова.

Вдумайтесь хорошенько: любить и уважать народ... Это значит постоянно и плотно работать с народом, с тысячами, миллионами людей. В этом деле не требуются большие финансовые затраты, как и дополнительные капвложения, инвестиции. Но отдача, польза от тесной, плодотворной работы с народом может быть колоссальнейшая.

Здесь нужно учесть одно, на мой взгляд, немаловажное обстоятельство. К сожалению, природа-матушка не одарила недра нашей страны триллионами кубических метров газа, сотнями миллиардов тонн "черного золота", но природа щедро одарила нашу страну самым драгоценным богатством, которым является наш трудолюбивый, талантливый народ. И только он способен обеспечить высокий уровень производства продукции отличного качества, достойное благосостояние всех категорий населения.

В этом контексте слова руководителя страны являются чрезвычайно актуальными и злободневными. **Фактически поставлена важнейшая государственная задача — как можно эффективнее задействовать человеческие возможности, физический и интеллектуальный потенциал каждого труженика, фантастическую энергию многомиллионной людской массы.** Что и говорить, главной производительной силой есть и всегда будет человек.

Не могу не вспомнить подзабытого многими Карла Маркса, который когда-то сказал: *"Человеком двигает интерес".* И это бесспорный факт. Из многолетнего опыта своей работы знаю: там, где в производственном коллективе отработан и действует интерес человека — там порядок, дисциплина и ответственность. В таком коллективе естественным образом рождается инициатива и творческий подход к делу. Там люди сами ищут и находят пути сокращения затрат на производство продукции, пути роста производительности труда. В итоге производят качественные, конкурентоспособные товары, продукцию самого различного назначения. В условиях глобализации и вхождения в мировую экономическую систему это очень серьезный фактор развития страны и общества. Еще лет тридцать назад даже представить было трудно, чтобы наша небольшая Беларусь поддерживала внешнеэкономические связи со многими и многими странами мира. Если раньше мы торговали в основном внутри Советского Союза и, может быть, с небольшим количеством государств Европы, то сейчас развиваем внешнеэкономические связи, считай, со всеми странами Европы. Наши пути-дороги пролегают в Азию, Африку, Латинскую Америку, Австралию... Практически имеем выход на все континенты земного шара.

И если основательно и с научным подходом отработать вопросы, напрямую связанные с интересом человека, то, я уверен, буквально во всех отраслях народнохозяйственного комплекса можно добиться дальнейшего значительного роста экономики. При этом вся продукция, которая предназначена на экспорт, будет конкурентоспособной, а это значит, что исчезнет затоваривание складов, из-за чего сегодня омертвляются на долгое время огромнейшие финансовые вложения. Смотришь — через несколько лет наша страна может выйти в число тех передовых стран мира, где самый высокий уровень жизни населения. Если это станет реальностью, то наконец-то наш белорусский рубль займет достойное место среди других валют мира.

Дать народу сполна раскрыться, привести в действие весь спектр человеческих возможностей, пробудить в людях глубокую ответственность не только за себя, за свою семью, но и за судьбу страны — важнейшая государственная задача. Но, конечно же, это само по себе не придет. Повторюсь: нужна серьезная кропотливая работа с людьми. Проще говоря, нужно работать засучив рукава и не щадя живота своего.

Примером для нас может быть Китай. Каких-то 12—14 лет назад его считали нищей крестьянской страной. Страной, которая не могла обеспечить продовольствием даже свое население. Ситуация изменилась, когда главой государства стал Дэн Сяо Пин. Это ему принадлежат крылатые слова: "Неважно, какого цвета кошка, — главное, чтобы она ловила мышей". Эти слова сказаны в стиле древнекитайского философа Конфуция и значат: не важно, каких взглядов — политических, экономических, духовных и религиозных — придерживается человек, главное, чтобы он активно работал. Я не эксперт по Китаю, но, по сообщениям СМИ, трудовая активность китайцев очень высокая. Именно высокая трудовая активность народа (а многие китайцы работают по 10—12—14 часов в сутки) дала возможность стране в короткие сроки стать второй экономикой мира.

Изложенные мною мысли преследуют единственную цель: тесно работая с народом, любя и уважая народ, руководящие кадры страны имеют возможность пробудить в массах такой потенциал человеческой энергии, что Республика Беларусь станет воистину процветающей, а люди зажиточными и счастливыми.

Мой жизненный опыт дает мне право еще раз обратить внимание нынешних чиновников на приведенные в начале статьи слова Александра Григорьевича Лукашенко. Так, вы, сегодняшние управленцы, должны любить и уважать народ, а не отпихиваться от него. Ваша миссия — найти подход к каждому человеку, помочь ему реализовать весь свой потенциал, получив при этом не только хорошую зарплату, но и удовлетворение в целом жизнью.

Полагаю, тема, поднятая мною на страницах "Народной Воли", получит должный резонанс, в разговор вступят представители самых разных сфер и регионов, будет обнародована большая палитра мнений и взглядов по животрепещущей проблеме. Я при необходимости постараюсь подключиться к дискуссии на завершающейся стадии. А пока меня интересуют высказывания, взгляд других. Давайте вместе делать все для того, чтобы наша Беларусь действительно стала и богаче, и краше.

**Мечислав ГИРУТЬ, ветеран труда, бывший первый заместитель председателя Гродненского облисполкома.**

## Кратко об авторе

**Мечислав Иванович Гируть** родился 11 мая 1936 года в д.Скилондишки Ошмянского района.

В 1955 году окончил Жупранскую среднюю школу.

1955—1958 гг. — служба в армии.

По возвращении "на гражданку" несколько лет работал в разных районных структурах.

С 1963-го по 1969 год — председатель колхоза "Свобода".

Затем был выдвинут на партийную и советскую работу.

С 1983-го по 1992 год — первый заместитель председателя Гродненского облисполкома, председатель областного агропромышленного комитета.

Три созыва избирался депутатом Верховного Совета БССР и Республики Беларусь.

Окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию и ВПШ.

Имеет ряд государственных наград.



ПОГЛЯД

## Вучыцца ў брытанцаў!

На мінулым тыдні ўважліва сачыў за правядзеннем рэферэндуму ў Шатландыі. Вось гэта дэмакратыя! І цэнтральны ўрад у Лондане, і ўлады рэгіёна, які вырашыў канчаткова вызначыцца з дзяржаўнасцю, дзейнічалі цывілізавана, у адпаведнасці з існуючымі законамі. Калі б большасць насельніцтва Шатландыі выказалася за суверэннасць, то Вялікабрытаніі заставалася б толькі пагадзіцца з такім волевыяўленнем. А паколькі за адлучэнне ад Брытаніі прагаласавала меншая частка электарату, то ўсё застаецца па-ранейшаму. Вострая праблема вырашылася ціха, дэмакратычна.

Вучыцца і вучыцца нам у брытанцаў. Вось ужо дваццаць гадоў не можам правесці ні рэферэндумаў, ні выбараў без фальсіфікацый, без парушэння правоў галасуючых. Не будзем кіравацца дэмакратычнымі прынцыпамі — не будзе ў Беларусі зрухаў па будаўніцтве сапраўды народнай дзяржавы.

**Мар'ян КАПУЦКІ.**

*Брэст.*

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

## Жыццё пасля... жыцця

Мая родная сястра стала ўдавой сем гадой таму: муж памёр ад алкагалізму. Жылі яны ў невялікім пасёлку, працавалі абое на лесазаводзе. Пасля развалу СССР узнікла праблема са збытам прадукцыі, пачаліся скарачэнні штатаў.

Зяць, высокі і прыгожы мужчына, не вытрымаў і спіўся за некалькі год. Сястра дацягнула да пенсіі і стала думаць, што рабіць далей. Дзеці ўжо выраслі і з'ехалі ў абласны цэнтр. Муж памёр. І яна, дыпламаваны медработнік, якімсьці цудам апынулася ў Італіі і стала там даглядаць пажылых людзей.

Калі яна прыязджала летам у водпуск, я быў прыемна здзіўлены яе памаладзелым выглядам: стройная, з моднай стрыжкай, з агеньчыкам у вачах. Іншы чалавек! На зробленыя грошы яна дапамагла дзецям пабудаваць кватэры і сама купіла сабе аднапакаёўку, каб быць у будучым разам з унукамі. Адбываючы на ўзбярэжжа Адрыятычнага мора, яна сказала: "Вось цяпер я па-сапраўднаму зразумела, што такое шчаслівае людское жыццё. Хай Бог мне прабачыць за тыя 50 год, што былі раней, яны таксама важныя, але былі не такія добрыя. Пад канец жыцця мне пашанцавала, цяпер я жыву ў радасці і дабрабыце і жадаю такога ўсім людзям нашай зямлі".

Ну што тут сказаць у адказ? І так усё зразумела.

**Аляксей БУЦЬКО.**

*Гродна.*

РУБАМ!

## Беларусі патрэбны закон аб люстрацыі

Прачытаў, што Вярхоўная Рада Украіны прыняла закон аб люстрацыі. Ён дапаможа хутчэй ачысціць уладныя структуры ад тых чыноўнікаў, хто сваімі дзеяннямі або бяздзеяннем перашкаджаў грамадству будаваць сапраўды дэмакратычную дзяржаву, адстойваў не агульнанародныя інтарэсы, а спрыяў тым, хто множыў у краіне карупцыю, падтрымліваў сепаратызм, дыктатуру ўлады, заклікаў да нацыянальнага расколу.

Я звярнуў увагу на такі пункт: *"Люстрацыі будуць падвергнуты дзяржаўныя служачыя і адказныя асобы мясцовага самакіравання, якія любымі дзеяннямі альбо бяздзеяннем спрабавалі перашкаджаць рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян Украіны збірацца мірна і праводзіць сходы".* Бачыце, нашы суседзі зразумелі: у людзей павінна быць рэальная магчымасць правесці тую ці іншую акцыю, каб данесці сваю пазіцыю як да ўлад, так і да шырокай грамадскасці. А ў нас? Па любых надуманых прычынах актывісты партый, рухаў атрымліваюць адмовы ў правядзенні з'ездаў, мітынгаў, дэманстрацый, пікетаў.

Што ж гэта за ўлады, калі гадамі нельга зарэгістраваць апазіцыйную партыю? Для ўсялякіх бээрэсэмаў і "Чырвоны дом", і ўрад, і так званыя палаты ствараюць самыя розныя прывілеі, а для тых, хто хоча бачыць Беларусь дэмкратычнай, — суцэльныя перашкоды.

Я мару аб тым часе, калі і ў нас будзе прыняты закон аб люстрацыі. Даўно надышоў час высвеціць усіх тых, хто, кіруючыся асабістымі, можна сказаць, здрадніцкімі інтарэсамі, стрымлівае дэмакратычнае развіццё краіны, бесцырымонна парушае правы чалавека. Ачысціць усе галіны ўлады ад шкодных чыноўнікаў — тэрміновае патрабаванне мільёнаў сумленных беларусаў.

**Станіслаў КАХНЮК, беларус.**

З ЛІСТА

## Абслугоўваюць па-беларуску




*Днямі быў вельмі прыемна здзіўлены.*

*Пайшоў фатаграфавацца на візу. Касірка размаўляе па-руску, а фатограф — па-беларуску. І на фота ўсё напісана на роднай мове, што вельмі прыемна. А якасць фота — шык!*

*Мяркую, што будзе карысным ведаць, дзе абслугоўваюць па-беларуску. Мінск, фотасалон FotaMax, Рэвалюцыйная, 1.*

**Аляксандр ПАНЬКОЎ.**

РЕЗОНАНС

## Господин Василевич, кто вам мешал реально улучшить ситуацию с правами человека в стране?

*Прочитал в "Народной Воле" статью Михаила Ивановича Пастухова о Концепции Национального учреждения по правам человека в Беларуси, автором которой является заведующий кафедрой юридического факультета БГУ Григорий Алексеевич Василевич. У меня сразу возник вопрос: почему эта Концепция не была предложена от кафедры? Возможные варианты: либо на указанной кафедре нет преподавателей, которые способны что-то оценить и иметь свое мнение, либо Г.А.Василевич не посчитал необходимым с ними посоветоваться.*

Между тем позиция автора Концепции мне не ясна. Ведь, находясь столько лет в должностях председателя Конституционного суда и Генерального прокурора, он мог реально улучшить ситуацию с правами человека в стране. Но не сделал этого, а теперь собирается учить, как надо соблюдать права человека.

Очевидно, что в должности Уполномоченного по правам человека, назначаемого президентом, мы будем иметь еще один государственный орган с несколькими десятками чиновников. Можно себе представить, как они будут рассматривать жалобы на дела других чиновников. Да, в духе корпоративного товарищества. Но зато сколько можно исписать бумаги на тему, как в Беларуси соблюдаются права человека!

Говоря о вышеназванной Концепции, считаю, что ее нужно строить по принципу "защита не вообще прав человека, а защита прав конкретного человека". Лишь в этом случае появится возможность заявить иск "Иванов против правительства" либо "Иванов против МВД". На подобный подход указывают и требования международных организаций, то есть надо делать упор на индивидуализацию защиты прав человека.

Можно не сомневаться в том, что предложенная Г.А.Василевичем Концепция будет принята. Это — "неприятная новость". А "приятная" — просуществует данная модель столько, сколько будет сохраняться эта власть. Потом придется все перестраивать на демократический лад с использованием международного опыта.

**Игорь КАБАЛИК, юрист.**

*Брест.*

КРЫМІНАЛ

# Забойства на ціхай вуліцы

У тую летнюю раніцу Сяргею Заброцкаму быў нямілы белы свет: учора ён з сябрукамі моцна напіўся, а сёння пахмяліцца няма чым. Схадзіў у адну забягалаўку, потым у другую, але ўсё дарэмна. Тых, хто мог бы яго пачаставаць, не сустрэў, а грошай ніхто не пазычыў, хоць пытаўся ў многіх. У маленькім гарадку яго ведалі, так бы мовіць, як аблупленага. З маладых гадоў улёгшы ў гарэлку, з часам так "удасканаліў" сваё алкагольнае "майстэрства", што на працу не бралі нават дворнікам. Жонка, забраўшы дачку, паехала ў другі раён да бацькоў. Ад яго не патрабавала ні кватэры, ні маёмасці. Нават на аліменты не падавала. Ён паволі прадаваў усё, што было нажыта. Нават газавую пліту некаму загнаў за бесцань, бо надта трэба было пахмяліцца. На чарзе — халадзільнік і тэлевізар.

Вярнуўшыся дадому, знайшоў яшчэ амаль новы світар, які на дзень нараджэння некалі падарыла жонка. Скруціў пад паху і пайшоў шукаць таго, хто купіў бы.

— Што ты ўсё цягаешся, як грэшная душа па пекле? — пачуў раптам старэчы голас і ўбачыў сваю цётку Марылю, родную сястру маці-нябожчыцы. — Проста брыдка прызнавацца, што ты мой пляменнік. Людзі вунь працуюць, да нечага добрага імкнуцца, а ты адно ведаеш: напівацца. Зноў, бачу, нешта валачэш, на гарэлку, мабыць, хочаш загнаць нейкую апранатку.

— Світар вось нясу, можа, хто купіць, — жаласлівым голасам прамовіў Сяргей. Ён звычайна грубіў цётцы, а тут вырашыў прыкінуцца хворым ды няшчасным, каб разжаліць яе — можа, пашкадуе і дасць грошай. — Жывот моцна баліць, а лекаў купіць няма за што.

— Было б дзіва, калі б ён у цябе не балеў, — прабубніла цётка. — Дапіўся, паршывец! — Яна дастала са старой пашарпанай сумкі кашалёк і дала яму сорак тысяч рублёў

— На таблеткі якія хопіць, бо ў мяне больш няма. А каб і было, то не дала б. Усё роўна прап'еш. Апранатку не прадавай, бо і так ужо абнасіўся, ходзіш, як жабрак. Занясі дадому. Купі лекаў, выпі іх і паляжы, а як назаўтра перастане балець, дык ідзі да дактароў.

Старая пайшла сваёй дарогай, а ён завярнуў за вугал парфумнага магазіна, пачакаў, каб цётка не ўбачыла, якія "лекі" збіраецца купляць за тыя сорак тысяч, і накіраваўся ў прадуктовы. Купіў бутэльку віна і булку салдацкага хлеба. Ведаў, што такой дозы пітва да вечара будзе мала, але пахмяліцца ёсць чым.

Вярнуўшыся дадому, наліў віно ў кубак, выпіў залпам, як ваду. Праз некалькі хвілін галава перастала балець і гудзець, унялася дрыготка ва ўсім целе.

Калі дапіў усё, змарыў такі сон, быццам не спаў некалькі сутак. Нават і духата, што панавала ў кватэры, не была перашкодай. Праспаў амаль да вечара. А калі людзі вярталіся з работы, зноў выйшаў на промысел. На гэты раз пашанцавала: амаль адразу сустрэў Міхася Кулейчыка, з якім некалі працавалі на будоўлі. Прынамсі, Міхась і цяпер там працаваў. Ён таксама любіў чарку, але ж работай даражыў. Кулейчык быў старым халасцяком. Ён адзін жыў у бацькоўскай хаце, трымаў яе ў адносным парадку.

— Даўно не бачыліся, то, можа, пачастуеш? — з надзеяй спытаў Сяргей.

— Можа, і пачастую. Я сёння адпускныя атрымаў і зарплату, так што табе пашанцавала.

Дайшоўшы да магазіна, Сяргей папярэдзіў:

— Бяры дзве, бо адной будзе мала. Гарэлкі вазьмі...

— А каньяку не хочаш? Буду я цябе, гультая, яшчэ гарэлкай паіць! І віна хопіць.

Віна ён узяў дзве бутэлькі і, засунуўшы іх у кішэні штаноў, пацёгся на сваю вуліцу. За ім радасны ішоў Сяргей.

Пакуль гаспадар мыў рукі і шукаў якую закусь, госць адкаркаваў бутэльку і проста з горла выліў у сябе палову.

— Ну і спрытны ты да гэтай справы! Каб да работы так, — пакпіў Міхась.

— Няхай конь працуе. Ён дужы.

За якія паўгадзіны віно было выпіта, а душа прасіла працягу, хоць ужо можна было спыніцца на дасягнутым. Міхась, напрацаваўшыся за цэлы дзень на гарачыні, пачаў кляваць носам.

— Дай яшчэ грошай, я збегаю куплю, — прапанаваў Сяргей.

— Не дам... — катэгарычна захістаў п'янай галавой гаспадар. — Мне самому грошы патрэбны, а ты ідзі і зарабі.

Госць бачыў, у якую кішэню Міхась паклаў пульхны кашалёк, і хацеў яго адабраць, але не ўдалося. Гаспадар, хоць і быў п'яны, так штурхнуў Сяргея, што той упаў і моцна стукнуўся бокам аб кант табурэткі. Ён схапіў тую самую табурэтку і з усёй сілы апусціў незгаворліваму крэдытору на галаву. Акрываўлены Міхась абсунуўся на падлогу. Сяргей выцягнуў з яго кішэні кашалёк і пайшоў да сваёй каханкі Альбіны, што жыла на ўскрайку гарадка. Ён нават не спалохаўся, што гаспадар не падае прыкмет жыцця, не паглядзеў, ці, можа, таму патрэбна дапамога.

Альбіна таксама нідзе не працавала. Яны разам схадзілі ў магазін, набралі гарэлкі, закусі і пачалі баляваць.

Грошай у Міхасёвым кашальку было шмат, і баль працягваўся амаль тыдзень. За гэты час Сяргей нават не ўспомніў таго, за чые грошы ён тут раскашуе. І Альбіна не пытала, як яму ўдалося раптам разбагацець. Яна проста радавалася такой халяве.

Баль перапынілі міліцыянеры. Раніцай, калі апойкам самы час быў пахмяляцца, яны заявіліся ў Альбініну хату і забралі каханка ў стане цяжкага пахмельнага сіндрому. Той і не супраціўляўся.

— Што, акачурыўся Міхась? — спытаў са спакойным цынізмам. — Добра-такі я яго агрэў табурэткай! Трэба было даць на бутэльку віна, то застаўся б жывы. Сквапнасць фраера згубіла. А хто яго знайшоў?

— Суседка знайшла і нам паведаміла. Яна ж і падказала, хто забойца і дзе яго трэба шукаць.

Цяпер Сяргей чакае суда. Ён не раскайваецца, яго не мучыць сумленне, бо прапіў не толькі сям'ю і маёмасць. Прапіў спагаду, дабрыню і ўсё, чым павінна жыць людская душа.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

**P.S.** *Паколькі справа яшчэ не разгледжана ў судзе, то імёны "герояў" зменены.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
23 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ВІНШУЕМ!

## «Залатая шабля» беларускіх дакументалістаў

*У Варшаве завяршыўся 5-ы Міжнародны фестываль гістарычнага і ваеннага кіно. Адну з галоўных узнагарод — “Залатую шаблю” — у катэгорыі “дакументальнае кіно” атрымаў беларускі фільм “Хроніка Мінскага гета” (“Майстэрня Уладзіміра Бокуна”, аўтар сцэнарыя — Барыс Герстэн, рэжысёр — Уладзімір Луцкі, прадзюсар — Уладзімір Бокун, інфармацыйная падтрымка — тэлеканал АНТ).*



На цырымоніі, якая прайшла ў Канферэнцыйным цэнтры Польскай Арміі, лаўрэатам фестывалю ўручылі залатыя, сярэбраныя і бронзавыя шаблі — дакладныя копіі польскай ваеннай шаблі ўзору 1926 года. Асаблівым госцем і ўладальнікам спецыяльнага прыза — плацінавай шаблі — стаў знакаміты польскі рэжысёр, лаўрэат прэміі “Оскар” **Анджэй Вайда.** Плацінавая шабля была ўручана рэжысёру ў знак павагі і ўдзячнасці за яго ўклад у сусветны кінематограф. Анджэй Вайда распавёў гасцям гісторыю шаблі свайго бацькі, польскага афіцэра, які быў расстраляны ў Катыні.

На фестываль было заяўлена 78 фільмаў з 11 краін свету (у тым ліку Швейцарыі, Бразіліі, Францыі, Канады, Літвы, Латвіі). Журы адабрала для ўдзелу ў фестывалі 48 стужак — як дакументальных, так і мастацкіх.

**Анджэй Бжоза**, дырэктар фестывалю, адзначыў: *“Тут сабраліся творчыя групы з розных краін, якія заклапочаны пошукам адказаў на самыя вострыя пытанні гісторыі. Тыя, хто спрабуе запоўніць белыя плямы ў гісторыі сваіх краін”.*

Анджэй Бжоза высока ацаніў беларускія фільмы “Хроніка Мінскага гета” і “З Міра ў свет. Гісторыя аднаго зыходу”, створаныя творчай групай праекта “Зваротны адлік “ (тэлеканал АНТ).

*“Усе ведаюць, што ў Мінску было гета*, — сказаў Бжоза пра фільм-пераможцу. — *Але гэты фільм дае гледачам шанец зразумець, ЯК гэта было. “Хроніка Мінскага гета” мае вельмі моцны драматургічны складнік: адноўленыя пастановачнымі сродкамі падзеі ў злучэнні з графікай і хранікальнымі матэрыяламі ствараюць неверагодна моцнае эмацыянальнае ўражанне. Гэта дапамагае ўсвядоміць жах усяго таго, што адбывалася, прымушае памятаць аб гэтай трагеды*і”.

**На фота:** *прадзюсар Уладзімір Бокун, сцэнарыст Барыс Герстэн, рэжысёр Уладзімір Луцкі з “Залатой шабляй”.*

НЕ ПРОПУСТИТЕ!

## Выходные с Анной Герман

Третий раз по инициативе Посольства Польши в Беларуси и вокального дуэта “WitaM” (Марина Товарницкая и Виталий Олешкевич) в Минске 27—28 сентября пройдет Фестиваль песни имени Анны Герман. Его цель — популяризация личности и творчества этой выдающейся певицы и продвижение молодых талантливых музыкантов польского происхождения.

В Польше сегодня “огромный спрос на Анну Герман”, хотя еще при жизни Анны многие считали ее русской певицей, а после смерти почему-то все польские СМИ старательно обходили стороной все, что было связано с ее именем. Практически невозможно было услышать ее голос по радио. Буквально в последние годы все изменилось. “Такого не было никогда, — говорит варшавский биограф Анны Герман писатель Мариола Призван. — О певице, которую Польша долгие годы не вспоминала, вдруг заговорили все газеты и журналы. Герман на обложках крупнейших польских изданий, а рейтинг сериала “Анна Герман” бьет все мыслимые рекорды. На польском радио вновь звучит ее божественный голос”.

Что касается минского фестиваля, то в первый день, 27 сентября, конкурс пройдет в трех категориях: выступят солисты 15—26 лет, а также солисты старше 26 лет, группы. Каждый исполнит по две композиции — одну на польском языке и одну — на русском. После конкурса жюри, в состав которого войдут белорусские артисты и представители музыкальной среды Польши (в 2013 году председателем жюри был Кшиштоф Цвынар — композитор, автор текстов песен Анны Герман, вместе с ней выступавший на сцене), огласит список исполнителей, приглашенных на гала-концерт. Во второй фестивальный день на гала-концерте станут известны результаты, будут вручены награды, пройдет художественная часть, во время которой публика услышит песни в исполнении лауреатов и приглашенных гостей.

Гала-концерт лауреатов фестиваля и приглашенных артистов пройдет 28 сентября в Концертном зале “Минск”. Вход свободный.



ДЫСКУСІЯ

## Захаваем ансамбль Кастрычніцкай плошчы!

Горача падтрымліваю прапанову глыбокапаважанага прафесара А.І.Мальдзіса стварыць у былым будынку Музея Вялікай Айчыннай вайны Усебеларускі дом. Гэта тое, што трэба Беларусі сёння. Разбураць гэты будынак недапушчальна. Яшчэ нядаўна ён меў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. На вялікі жаль, Навукова-метадычны савет пры Міністэрстве культуры, абслугоўваючы інтарэсы цынічных інвестараў, гэтага статусу яго пазбавіў. Абгрунтаваў ён гэта рашэнне зменай прызначэння будынка, хаця закон гэтага не дазваляе.

Забудова Кастрычніцкай плошчы склалася ў другой палове XX стагоддзя як каштоўны гістарычна-мастацкі архітэктурны ансамбль. Гэты ансамбль гарманічны па аб’ёмнай кампазіцыі і сфарміраваны з блізкіх па стылі аб’ектаў. Будынак былога музея запраектаваны з улікам суседства з Палацам культуры прафсаюзаў і ўдала спалучаецца з ім і з забудовай супрацьлеглага боку плошчы. Ён можа быць паспяхова выкарыстаны для размяшчэння такой грамадска-культурнай установы, як Усебеларускі дом. Дарэчы, над галоўным уваходам у будынак прадугледжана месца для вялікага манументальна-дэкаратыўнага пано, якое ў свой час не здолелі выканаць. Пры размяшчэнні ў будынку Усебеларускага дома гэтую задуму аўтараў праекта музея — народнага архітэктара БССР Г.У.Заборскага і заслужанага архітэктара БССР Г.М.Бенедыктава — будзе магчыма нарэшце ажыццявіць. Такое пано з адпаведнай тэматыкай адлюструе новае прызначэнне будынка і ўзбагаціць мастацкую выразнасць усяго ансамбля плошчы.

Пры з’яўленні на месцы былога музея сучаснага будынка ансамбль Кастрычніцкай плошчы будзе катастрафічна парушаны. Горадабудаўнічыя ансамблі, якія адлюстроўваюць розныя этапы гісторыі краіны, не павінны разбурацца па жаданні хцівага бізнесу.

У цэнтры сталіцы Беларусі павінны размяшчацца ўстановы агульнанацыянальнага культурна-гістарычнага значэння.

**Ігар БАЙЦОЎ,**
**архітэктар.**

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## Саша Філіпенка запрашае

*1 кастрычніка ў кнігарні “ЛогвінаЎ” (Мінск, Незалежнасці, 37а) адбудзецца сустрэча з аўтарам нашумелага рамана “Былы сын” (“Бывший сын”) Сашам Філіпенкам.*



Раман “Былы сын” выйшаў напрыканцы 2013 года ў маскоўскім выдавецтве “Время”, потым з’явіўся ў продажы ў Беларусі.

У цэнтры рамана “Былы сын” падзеі сучаснай беларускай гісторыі. Дзеянне пачынаецца з трагедыі на Нямізе, а заканчваецца выбухам у метро ў 2011 годзе.

У імпрэзе таксама возьме ўдзел выдавец Барыс Пастэрнак. Пачатак у 19 гадзін. Уваход — вольны.

ПЕРСОНА

# Настоящая Данилюк
## О певице, таланте, женщине



### Дар бесценный, неслучайный

25 сентября, в день 75-летия со дня рождения выдающейся певицы, примадонны белорусской оперы, народной артистки СССР **Светланы ДАНИЛЮК,** Большой театр оперы и балеты будет чествовать другое творческое имя. Тоже человека очень достойного, тоже таланта, неординарную личность, чей день рождения, правда, прошел почти два месяца назад. Но почему тогда именно послезавтра, в юбилейный день рождения Данилюк, в театре вспоминают другого?! Будто такие голоса, как был у нее, часто рождаются. Да нет! Редкость, ценность, настоящее достояние. Будто не стало ее имя эпохой в театре, не украшало афиши нашего Большого театра 20 лет подряд. А ведь “на Данилюк” шел весь Минск. Будто противостояние артистки и театра продолжается и по сей день. Но, согласитесь, ее безвременный уход положил конец всякой земной суете. И про 75-летие народной артистки забыли. Ну, просто некоторая небрежность администрации... Немножко бюрократизма. И бездна равнодушия.

Сейчас есть совсем немного записей Данилюк, оцифрованных и выложенных в интернете. (Три диска-гиганта певицы, выпущенные в свое время на фирме “Мелодия”, если бы я и нашла, то прослушать их у меня негде, то есть не на чем). Но и на “цифре” еще раз убедилась, каким великолепным, ярким голосом обладала эта женщина. Да если бы певица жила хотя бы на поколение позже, она, мне кажется, могла теперь соперничать с Анной Нетребко. И еще не известно, по-моему, кто победил бы в творческой конкуренции.

Светлана Данилюк была на редкость породистым красивым человеком. Роскошное меццо-сопрано уникального серебристого тембра, экспрессия, пластичность, музыкальность плюс стать, внешность. Железный характер, непреклонная воля. Талантливая драматическая артистка, она гипнотически действовала не только на зрителей, но и на партнеров по сцене.

Правда, Светлана — украинка, не казачка, как Анна. Окончила Киевскую консерваторию, вечернее отделение. Когда сказала своей маме, уборщице на резиновом заводе, что будет пробовать поступать в такой престижный вуз, та горько ответила ей, чтобы дочка даже не мечтала: “Таких, как мы, не берут”. Будущая народная артистка СССР была из семьи раскулаченных крестьян. Отец погиб на фронте. Из низов пришлось пробиваться девочке, из нищеты.

Но поступила, выучилась, окончила. Буквально сразу выиграла два престижных вокальных конкурса — имени Глинки и имени Чайковского в Москве. И очень скоро была приглашена солисткой в Большой театр оперы и балета Белорусской ССР. Опять-таки очень быстро, через два года, получила звание заслуженной артистки республики, еще через три года — народной БССР. Каково — Светлане Данилюк было всего 32 года, а она уже на олимпе отечественного вокального искусства! В профессии певица действительно шла семимильными шагами, у нее был талант и настоящий успех.

Вскоре артистку послали на стажировку в “Ла Скала”, и это было фактически признание на самом высоком уровне: талант как ценное государственное достояние отправили на шлифовку за границу. Тогда это выглядело именно так. Когда вернулась в Минск из Италии, газета “Известия” посвятила Данилюк заметку. Всего лишь 30 строчек, я посчитала. Но “Известия” — это был очень высокий информационно-идеологический уровень в советской стране. Начались престижные гастроли по капиталистической Европе. Не прошло и нескольких лет, как Данилюк присвоили звание народной артистки СССР.

А через 9 лет она навсегда ушла из театра. Находясь, как считала, в прекрасной вокальной форме. Случилась драма.

### Молнии бьют по вершинам

Я пришла к Светлане Филипповне на интервью в октябре 1991-го. Она уже шестой год не пела в Большом театре, работала в Белгосфилармонии. Филармоническая сцена у нас тогда считалась на ступеньку ниже оперной. Может быть, я ошибаюсь, но всеми чувствовался какой-то диссонанс в уходе такой большой артистки (слово “звезда” мы тогда употребляли редко, опасаясь аффектации, вульгарности) из Большого театра на концертную площадку. И я, не скрою, шла на интервью к народной артистке СССР узнать именно о конфликте — общество хотело правды, жаждало говорить в открытую о закулисье: политическом ли, театральном. И певица хотела высказаться. В разговоре Светлана Филипповна была страстной и резкой. И не сделала купюр, когда я принесла ей текст на вычитку. Позволю процитировать несколько абзацев из своего материала, опубликованного тогда в “Народной газете”.

— Я не раз раздумывала: почему? Кому выгодно бить под дых таланту? Причем огонь ведется снайперский, прицельный... И почему Министерство культуры, а раньше и ЦК партии так хладнокровно относились к этому чудовищному разбазариванию национального достояния? — вопрошала артистка.

И рассуждала далее:

— Механизм выживания солиста любого ранга из театра не так уж и сложен. Со мной было так. Сначала по всей стране откровенно искали замену Данилюк: не проходило месяца, чтобы в театр не пробовалась очередная меццо-сопрано. Потом на мои спектакли стали приглашать гастролеров — знаменитых и не очень. В общем, шел мощный моральный прессинг. Когда и это не возымело своего “воспитательного” действия, были сняты из репертуара — под тем предлогом, что устарели, — почти все мои спектакли: “Трубадур”, “Кармен”, “Сельская честь”, “Лоэнгрин”, “Хованщина”, “Борис Годунов”. Все это сопровождалось громкими разговорами, что Данилюк не выполняет норму. Поясню: театр в среднем дает в месяц 12—13 оперных спектаклей. Моя норма — 9. Скажите, реальна ли такая цифра? Ведь в театре, кроме меня, работают и другие солисты! Но раз норма не выполняется, в дело вступила “тяжелая артиллерия” — народный контроль. Меня начали судить люди, имеющие к опере такое же отношение, как я к космодрому. В чем только они не узрели моих прегрешений! Одних только концертных платьев у Данилюк оказалось сорок семь...

Далее — когда я, не имея загрузки в театре, начала гастролировать, занялась филармонической деятельностью, последовал строгий приказ: без разрешения дирекции, без справки, подписанной зав. труппой и директором, я не имела права ни на один концерт! Крепостной театр, да и только!

— Светлана Филипповна, вы не состояли в рядах КПСС?

— Не состояла. Кстати, я не склонна думать, что основным мотивом конфликта была моя беспартийность, хотя, конечно, вопросы карьеры для члена партии, как правило, во многом упрощались, но... Но я давно поняла, что не стоит вступать туда, откуда нельзя безнаказанно выйти. Хотя не стану утверждать, что начисто отвергаю идею коммунизма. Напротив. Мне кажется, что эта идея прекрасна. Но осуществить ее может только общество высочайшего уровня нравственного развития. Возможно, наша попытка также преждевременна на тысячи лет, как когда-то восстание Спартака.

Когда я объявила о своем уходе из театра, вы думаете, кто-нибудь поинтересовался причиной? Как бы не так! У меня сложилось впечатление, что боялись только одного: как бы я не передумала. Сгоряча даже наобещали, что будут приглашать петь спектакли, — только уходи из труппы побыстрей. Конечно, спеть в театре с тех пор мне не довелось ни разу, а министерство наше вообще делает вид, что меня уже не существует. Но я есть. И пою. И могла бы быть во многом полезна искусству.

### Достояние страны

Светлана Филипповна была гордой женщиной. Она не позволяла себе жить обидой на кого бы то ни было. Но горечь от того, что жизнь ушла в другое русло, все-таки скрывала с трудом. А в стране был кризис девяностых, он ужасно прошелся по ее творческой судьбе еще и по той причине, что исчезли всесоюзные гастроли — именно в те годы культурный обмен между странами замер. И для Запада Светлана Данилюк уже была не в том возрасте. На арену выходили новые силы — Мария Гулегина, например... Получалось, что для нее, солистки филармонии, народной артистки СССР, для сольных концертов осталась одна Беларусь, очень небольшое пространство для артиста. Нехватка творческого простора душила, ранила. Светлана Филипповна, наверное, часто страдала...

Конечно, сейчас, когда трудовое законодательство изменилось во всех сферах деятельности, такой коллизии, как у нее в оперном театре, думаю, и не произошло бы. Или бы она, коллизия, была гораздо мягче. Данилюк перешла бы на договор и выходила на сцену столько, сколько позволяло здоровье. Дело в том, что оно пошатнулось, голос ослаб, сил на регулярные спектакли уже не хватало — отсюда все рабочие узлы и столкновения. Но в этом Светлана Филипповна не хотела признаваться ни себе, ни окружающим очень долго. Так долго, что однажды процесс стал необратимым, и ее безвременная кончина тому подтверждение.

Я попросила ее коллег вспомнить о великой артистке, почтить память этого уникального таланта и редкой красоты женщины.

### Александр Анисимов, народный артист Беларуси:

— Светлана Данилюк — представительница большого советского стиля в искусстве, как Архипова, Атлантов, Образцова. Это была когорта артистов, которые очень высоко несли свое звание и не считали себя “слугами народа”. Их уважали, к ним прислушивалось руководство страны.

У Светланы Данилюк был голос уникальной красоты. Но она довольно рано ушла с оперной сцены. Почему? А почему в свое время перестала петь Мария Каллас? Голос хрупок, недолговечен. Как правило, у певиц период воздействия на публику не очень большой. Я по крайней мере знаю только один пример таланта-долгожителя — это Мария Биешу. Конечно, это драма.

### Наталья Руднева, народная артистка Беларуси:

— Не секрет, что у украинцев самые красивые голоса. Вот и Светлане Данилюк природа подарила богатейший голос-клад. Поверьте, она могла стать звездой мировой оперы. Такой голос появляется раз в 100 лет. Помешал “железный занавес”. Но в СССР она была известна и любима! Когда я после Самарского музучилища по распределению приехала работать в Минск, мне завидовали все однокурсники: “Боже, ты на одной сцене с самой Светланой Данилюк! На одной сцене с Зиновием Бабием!” Народных СССР знали наперечет.

Я была влюблена в Данилюк: внешняя стать, голос красивейшего тембра, подвижный, как ртуть. У нее было меццо-сопрано колоратурного типа — мало в каком театре было такое меццо-сопрано. Плюс музыкальность, хорошая выучка.

Уходить из театра всегда очень больно. Но Светлане Филипповне стало тяжело регулярно петь большие оперные партии. Понимала, что плохо петь не имеет права. Да она и не хотела давать повод для разговоров, шушуканий за спиной. Ведь она два десятилетия царила на белорусской сцене. И ее очень ценили в театре, и прежде всего главный дирижер театра Ярослав Вощак — она пела во всех его постановках.

Нет, капризной, а тем более скандальной, как прима, Светлана Филипповна не была. Она прекрасно понимала, что Бог наградил ее талантом. А конфликты — они ведь от комплексов. Но наступил период, когда певица месяцами не выходила на сцену по состоянию здоровья. Конечно, администрация со временем стала указывать ей на это, ведь надо заполнять рабочий табель для бухгалтерии. И Данилюк приняла решение уйти в филармонию. И правильно сделала. Она говорила, что даже в зарплате выиграла. И стала гораздо свободнее в репертуаре, в творчестве. Много ездила по республике.

### Виктор Чернобаев, народный артист Беларуси:

— Певца публика любит за тембр, а у Светланы Данилюк он был феноменальной красоты. О конфликтах с руководством я ничего не знаю. Такую солистку никто не может выжить из театра, она сама решила изменить творческую судьбу и стать концертной певицей. Я разговаривал с ней, когда она уже ушла из Большого. Спросил: “Ты не скучаешь? Почему ушла?” Она ответила: “Я пою сейчас очень интересный репертуар, “стариков”: Генделя, Баха, Моцарта, Бетховена. И сама себе хозяйка, создаю образы по своему понятию”.

Я помню ее Кармен — она пела блистательно! Она создала образ, который мог бы украсить любой театр Европы, а может быть, и мира. Но самая выдающаяся ее партия, с моей точки зрения, — это Амнерис в “Аиде”. Амнерис она исполняла блестяще, выглядела великолепно, и все Аиды — а по сюжету это главная роль! — рядом с ней, увы, блекли. Я участвовал в этих спектаклях. О, Светлана Филипповна была хороша! Царица! Потом ее Любаша в “Царской невесте”. Я исполнял Малюту. И часто у меня выступали слезы на глазах — настолько трогательно, драматично, правдиво была она в этом образе.

Она ни с кем близко не дружила в театре. Данилюк была человеком индивидуальным. Жаль, что Минкульт не занял ее в консерватории. А может быть, она сама не пошла? Такой певицы у нас в театре уже не будет никогда. Почему? Потому что человек, обладающий такими данными, как Данилюк, теперь моментально уезжает от нас работать за границу.

### Максим Федосеев, сын Светланы Филипповны Данилюк:

— Мне кажется, мама жила в театре особняком. Но на праздники, помню, к нам приходили балетные звезды: народные артисты Юрий Троян, Людмила Бржозовская, Виктор Саркисян, Ольга Лаппо. Общалась с Марией Биешу, с Еленой Образцовой — даже приносила ей какие-то украшения для костюма Амнерис, когда Елена Васильевна приехала на гастроли в Минск и пела в “Аиде”.

В последнее десятилетие жизни ее работа не отвечала ее статусу. Она выступала в камерном зале, ездила на концерты в санатории, дома отдыха, а бывало, на каких-то маленьких сценах чуть ли не в районных городах... Но стойко принимала свой жребий и называла себя “сельской учительницей”. Говорила, что если своим выступлением пробудит хотя бы в одном ребенке любовь к искусству, будет счастлива.

Я нередко бывал на ее концертах в камерном зале филармонии. Признаться, мне не совсем нравились ее сценические наряды. Но на третьей песне все пропадало: грим, платье, нервное откашливание... Я переставал видеть немолодую женщину, передо мной стояла артистка, ее мощный магнетизм втягивал меня в свою воронку. Она была очень талантлива. А голос — голос был всего лишь инструментом этой большой драматической актрисы.

### Нина Ломанович, народная артистка Беларуси:

— Настоящая певица — это редкость. А Данилюк была настоящая. Природа дала ей все! Рост, стать, ум. Дивный голос. Очень красивый, очень. Жаль, что ее записи сегодня редко звучат по радио. Светлана Филипповна была очень независимым человеком, настоящая прима. Это сейчас как-то все сравнялось. А она работала на уровне с дирижерами. Редкий случай, когда такая величина сама ушла из театра. Она могла еще работать, могла петь. Но покинула сцену с большим достоинством. Конечно, памяти таких артистов, как она, надо уделять больше внимания. Но у людей в природе: одних постоянно превозносить, других, не менее достойных, вспоминать редко. Это как раз ее случай.

**Елена МОЛОЧКО.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ТЕННИС

## Главное — не сдаваться!

Викторию Азаренко в этом году преследует сплошная череда неудач. Разрыв отношений со Стефаном Гарди, плохая подготовка, несколько травм... И как итог — экс-первая ракетка мира, победитель Australian Open в 2012-м и 2013 годах и призер лондонской Олимпиады опустилась на 25-е место в мировом рейтинге.

На днях стало известно, что Виктория приняла непростое решение. Азаренко объявила о том, что на данном этапе она вынужденно завершает свои выступления в нынешнем сезоне, дабы восстановить здоровье и в полной мере подготовиться к выступлениям в следующем сезоне. *"К сожалению, я не буду соревноваться в любых турнирах до конца сезона. Это был очень тяжелый год для меня. Я буду использовать это время для работы над полным восстановлением от травм и для заботы о своем теле для конкурентоспособного выступления в следующем сезоне. Я всегда верю, что все происходит по какой-то причине, и пусть все происходит не так, как вы хотели бы, но это для вас, чтобы сделать вас лучше... и это именно то, что я собираюсь делать"*, — пишет Азаренко на своей страничке в "Фейсбуке". На прошлой неделе Азаренко в Токио потерпела поражение в игре с сербкой Ане Иванович (счет 3:6, 4:6). По всей видимости, именно этот ужасный проигрыш стал решающим для Вики, после чего она и приняла решение о досрочном завершении нынешнего сезона.

ФУТБОЛ

## Минск в пролете

Еще в январе в УЕФА решили, что игры Евро-2020 пройдут не в одном, а в тринадцати европейских городах. В двенадцати — три групповых матча и одна игра плей-офф, а в тринадцатом — полуфиналы и финал. В минувшую пятницу в Женеве УЕФА утвердил окончательный список городов, в котором пройдет европейский чемпионат. Исполнительный комитет УЕФА назвал все города, которые будут принимать матчи Евро-2020.

**Финал и два полуфинала:** Лондон (Англия);

**Четвертьфиналы и три матча группового раунда:** Мюнхен (Германия), Баку (Азербайджан), Санкт-Петербург (Россия), Рим (Италия);

**1/8 финала и три матча группового раунда:** Копенгаген (Дания), Бухарест (Румыния), Амстердам (Нидерланды), Дублин (Ирландия), Бильбао (Испания), Будапешт (Венгрия), Брюссель (Бельгия), Глазго (Шотландия).

**Не получили права принимать матчи Евро**: Минск (Беларусь), София (Болгария), Скопье (Македония), Иерусалим (Израиль), Кардифф (Уэльс), Стокгольм (Швеция).

ЗОРКІ СПОРТУ

*Яніна ПРАВАЛІНСКАЯ- КАРОЛЬЧЫК:*

# «Прэзідэнцкай стыпендыі не атрымліваю, стаўкі ў Міністэрстве спорту не маю»

*Пасля трыумфальнай перамогі ў алімпійскім Сіднеі імя беларускай штурхальніцы ядра Яніны Карольчык не сыходзіла з газетных палос. Яе фотаздымкі з залатым медалём той Алімпіяды красаваліся на білбордах беларускіх гарадоў...*

*Праўда, было гэта аж 14 гадоў таму.*

*За гэты час ў жыццёвым калейдаскопе славутай спартсменкі змяняліся розныя фарбы: тут была і гісторыя з допінгам, якая пацягнула за сабой дыскваліфікацыю, і вяселле, і нараджэнне дачкі Настассі, і вяртанне ў вялікі спорт...*

*Пра тое, чым жыве зараз, як гадуе дачку, ці атрымлівае дагэтуль прэзідэнцкую стыпендыю, алімпійская чэмпіёнка Яніна Праваліская- Карольчык распавяла карэспандэнту"Народнай Волі".*

**— Яніна, у апошні час пра вас амаль не чуваць. Ці маюць пад сабой падставы чуткі пра тое, што вы завяршылі спартыўную кар'еру?**

— Чуткі пра мой сыход з вялікага спорту моцна перабольшаны. Я па-ранейшаму "ў абойме", працягваю трэніравацца, рыхтуюся да выступленняў. Планую выступіць на наступным чэмпіянаце свету, які пройдзе ў Кітаі. У 2016-м пройдзе Алімпіяда ў Рыа-дэ-Жанейра, але ці буду браць удзел у тых стартах, сказаць вам зараз не магу, так далёка не заглядваю, усё будзе залежаць ад уласных вынікаў і фізічнай формы. Так што пакуль заканчваць спартыўную кар'еру не планую.

**— Не крыўдна, што пра вас усё радзей і радзей узгадваюць журналісты?**

— Не, ніякай крыўды няма. Зараз ёсць шмат іншых спартсменаў, якія цікавяць журналістаў...

**— Збольшага гэта ўсё роўна прадстаўнікі "старой гвардыі". Асабліва ў вашым відзе спорту. Пару тыдняў таму давялося паразмаўляць са шматборцам Андрэем Краўчанкам. Ён не без горычы адзначыў, што ў лёгкай атлетыцы сапраўдная бяда з наступнікамі — не бачна таленавітай моладзі. Вы згодны з такім меркаваннем?**

— Цалкам згодная. Праблема, мне падаецца, палягае ў тым, што ў цяперашніх дзяцей іншыя інтарэсы. Лёгкая атлетыка ім увогуле нецікавая. Мы раслі ў іншых умовах, без камп'ютараў, гаджэтаў і мабільных тэлефонаў. Скажу за сябе: графік быў такі — заняткі ў школе, трэніроўка ў секцыі і пасля гэтага яшчэ магла на вуліцы пагуляць. Цяперашнія дзеці іншыя. Яны больш цікавяцца камп'ютарам, чым заняткамі спортам. У тым ліку і адсюль вынікае недахоп таленавітай моладзі.

**— Раз ужо загаварылі пра дзяцей, раскажыце пра дачку Насцю. Ці збіраецца яна пайсці па вашым шляху?**

— Не ведаю. Мне падаецца, што Насця яшчэ шукае сябе. Дачка — маё другое золата.

Ёй толькі дзевяць гадоў. Пазіцыя па яе выхаванні простая: сілком прымушаць яе займацца лёгкай атлетыкай я не буду. І блізка няма такіх размоў, што, маўляў, ты павінна быць такая, як я.

Насця — маленькая асоба. Ёй вельмі падабаецца маляваць, а спорт... Тры месяцы пахадзіла на каратэ, займалася танцамі... Пакуль кінула. Дачка вельмі любіць плаваць. Праўда, спаборніцтвы па плаванні — гэта, напэўна, не яе *(усміхаецца)*. Я аднойчы прывяла дачку на спаборніцтвы "Залатая рыбка", якія для дзяцей арганізоўвае наша славутая плыўчыха Аляксандра Герасіменя, каб дачка проста адчула, што такое сапраўдны спорт. Спорт, што называецца, на вынік. Ёй не тое што не спадабалася, проста для яе пакуль гэта цяжкавата. Да таго ж Насця стамляецца на вучобе. Дачка ходзіць у гімназію, ужо ў чацвёрты клас.

**— Да дырэктара з-за дачкі не выклікаюць?**

— Ды не, вы што! *(Смяецца.)* Такіх праблем няма, вучыцца добра. У школе яна старанная, я сказала б, актывістка... Праўда, дома,



бывае, лянуецца...

**— Вы строгая мама?**

— У меру. Магу і прыкрыкнуць, але гэта ўсё з любоўю. Стараюся стварыць для дачкі ўсе ўмовы. Ведаеце, іншы раз думаю: калі б у наш час была такая колькасць рэпецітараў і магчымасцяў для развіцця дзяцей, напэўна, калі не ўсе, дык праз аднаго заканчвалі б школу з залатым медалём. Я тлумачу дачцэ, што трэба вучыцца, браць веды. Насця разумее, але калі-нікалі прыходзіцца стаяць у яе над душой і кантраляваць, каб урокі былі зроблены.

**— Раскрыйце сакрэт: ці задумваецеся вы з мужам, Уладзімірам Правалінскім, пра папаўненне ў сям'і?**

— Не, пакуль такіх планаў няма.

**— Яніна, ці атрымліваеце вы як алімпійская чэмпіёнка дагэтуль прэзідэнцкую стыпендыю?**

— Так многія думаюць. Нават некаторыя спартсмены, не тое што людзі з неспартыўнага асяродку. Растлумачу вам сітуацыю: прэзідэнцкай стыпендыі я не атрымліваю. І ўжо даўно. Больш за тое, у мяне няма стаўкі ў Міністэрстве спорту Беларусі. Апошнія грошы па іх лініі я атрымала ў 2011 годзе, пасля таго як заняла чацвёртае месца на першынстве Еўропы ў 2010-м. Плацілі ў Мінспорту прыкладна шэсць месяцаў, потым выплаты скончыліся. Тут яшчэ справа ў тым, што спартсменам можна атрымліваць грошы толькі ў адным месцы. Я ж залічана ў штат Міністэрства ўнутраных спраў, на іх базе і трэніруюся. Уваходжу ў склад каманды пры міністэрстве.

**— А званне ў вас зараз якое?**

— Маёр. Не ведаю, ці дадуць падпалкоўніка. Спачатку трэба паказаць годны вынік, а потым вяртацца да гэтай тэмы.

**— Яніна, скажыце шчыра, грошай на жыццё хапае?**

— Не думайце, што атрымліваю нейкія шалёныя грошы. Упэўнена, што зарплата прыкладна такая ж, як у большасці беларусаў.

**— Думкі пра тое, чым будзеце займацца пасля завяршэння спартыўнай кар'еры, узнікаюць? Пра трэнерскі хлеб не думалі?**

— Гэта стэрэатып, што з алімпійскага чэмпіёна ці спартсмена, які дасягнуў значных вынікаў, абавязкова атрымаецца добры трэнер. Напрыклад, я не ведаю ніводнага алімпійскага чэмпіёна, які выхаваў бы яшчэ аднаго. Мне, падаецца, наадварот: добрым трэнерам можа стаць той, чый спартыўны патэнцыял не быў рэалізаваны. Не ўпэўнена, што выберу трэнерскі шлях. Але пажывём — паглядзім...

**— Не магу не запытацца пра балючае...**

— Пра допінг пытацца будзеце? Забылася ўжо на гэту непрыемнасць. У чалавечым жыцці заўжды так: забываецца і добрае, і дрэннае.

**— Яніна, але ж у эпіцэнтрах допінгавых скандалаў часцяком аказваюцца беларускія лёгкаатлеты. Акрамя вас у падобнай сітуацыі былі Іван Ціхан, Надзея Астапчук... Спіс можна працягваць.**

— Зразумейце: мы ж не самагубцы... Ніхто наўмысна допінг не прымае. Бяда ў тым, што ў Беларусі не хапае высокакваліфікаваных урачоў канкрэтна ў гэтай галіне. У нас жа як — вынік патрабуюць тут і зараз. А фармакалогія — гэта не апошняя складаючая прафесійнага спорту, ніякага сакрэту ў гэтым няма. Іншая справа, што многія краіны зрабілі істотны крок наперад у гэтым накірунку. У нас жа... каменны век у гэтым пытанні...

**Гутарыў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### ДАВЕДКА «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

**Яніна ПРАВАЛІНСКАЯ-КАРОЛЬЧЫК** нарадзілася 26 снежня 1976 года ў вёсцы Хрышчановічы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці.

Скончыла Вучылішча алімпійскага рэзерву ў Гродне. Першы трэнер — Рыгор Сініцын. Менавіта ён перакваліфікаваў лёгкаатлетычны профіль будучай алімпійскай чэмпіёнкі — з бегу на штурханне ядра.

Яніна — сярэбраны прызёр юніёрскага чэмпіянату Еўропы-1995, бронзавы прызёр маладзёжнага чэмпіянату Еўропы-1997 у штурханні ядра і кіданні дыска.

Алімпійская чэмпіёнка Сіднея-2000. Вынік у штурханні ядра — 20 метраў 56 сантыметраў.

Чэмпіёнка свету 2001 года. Вынік — 20 метраў 61 сантыметр.

У 2003-м дыскваліфікавана на два гады за ўжыванне допінгу.

У вялікі спорт вярнулася ў 2006 годзе.

ШАХМАТЫ

## Решите задачу
*Г.Рабченок*




**Белые:** Крf8, Фа5, Лb5, п. е6 (4).

**Черные:** Крd6, п. с7 (2).

**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу-миниатюру минчанина Геннадия Рабченка. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## Достойное выступление

В норвежском Тромсе прошла 41-я Всемирная шахматная олимпиада. В ней приняли участие 150 мужских и 136 женских команд. В составе каждой из них выступали по 4 основных и один запасной игрок. Интересно отметить, что среди команд были представители стран, охваченных войной, — Ирака, Сирии, Ливии. Соревнования проводились по швейцарской системе в 11 туров. В мужском турнире фаворитом считалась команда России. Но в очередной раз она осталась без медалей.

Чемпионский титул завоевали шахматисты Китая, проведшие турнир без поражений — 8 побед при трех ничьих, 19 командных очков. На два очка отстали сразу четыре команды. По дополнительным показателям серебряные награды достались венграм, бронзовые — команде Индии, россияне лишь четвертые, пятое место у Азербайджана.

Белорусская сборная заняла 11-е место, набрав 16 очков. Это самый высокий результат за все время выступления нашей команды в олимпиадах. Команду Беларуси возглавлял гроссмейстер Сергей Жигалко. Встречаясь с сильнейшими шахматистами мира, он набрал 5,5 очка в 10 встречах. На второй доске его старший брат Андрей Жигалко принес команде 6 очков в 10 встречах. Результат гроссмейстера Алексея Александрова — на третьей доске — 5,5 из 9, гроссмейстер Владислав Ковалев набрал 5 очков в 8 партиях.

Надо отметить, что именно победа Ковалева в заключительном туре определила победу нашей сборной в матче с сильной командой Болгарии, что позволило занять команде высокое место.

В женском турнире чемпионами Олимпиады стали россиянки, набравшие 20 командных очков (10 побед при одном поражении от команды Украины). Серебряные медали у спортсменок Китая, бронзовые — у команды Украины. Белорусская команда, которая была одна из самых молодых на Олимпиаде (средний возраст меньше 20 лет), набрала 13 командных очков (6 побед при 4 поражениях и одной ничьей) и заняла 27-е место.

Блестяще играла лидер команды гроссмейстер Анастасия Зезюлькина — 9 очков в 11 встречах, высокий результат и у Ланиты Стецко, на второй доске она набрала 7 очков в 10 встречах.

В индивидуальном зачете на первой доске победу одержал экс-чемпион мира Веселин Топалов (Болгария) — 6,5 из 9, такой же итог у англичанина Майкла Адамса. У женщин на первой доске победила Нана Дзагнидзе (Грузия) — 8 очков из 9. Наша Анастасия Зезюлькина заняла почетное шестое место и значительно повысила свой рейтинг.





ВАС ЦІКАВІЦЬ...

*Наш чытач Уладзімір Мікульскі патэлефанаваў у рэдакцыю і папрасіў расказаць, чым жа скончыўся канфлікт вядучай АНТ Каліны Вардомскай з жанчынай, якую яна пабіла ля дзіцячага садка. Інцыдэнт, нагадаем, адбыўся 9 верасня.*

# Пакуль вядзецца праверка

"Народная Воля" пачала шукаць адказ на гэтае пытанне ў ДАІ Мінска. Аднак там патлумачылі, што дарожнага здарэння не адбылося, таму справа не ў іх кампетэнцыі. Як высветлілася, канфлікт аказаўся ў кампетэнцыі супрацоўнікаў міліцыі Фрунзенскага раёна Мінска.

Навіна аб тым, што тэлевядучая АНТ Каліна Вардомская пабіла жанчыну, якая таксама была за рулём, бо тая не саступіла ёй праезд, выклікала шырокі розгалас. Інцыдэнт адбыўся ў двары каля дзіцячага садка. Пацярпелая жанчына яе імя папрасіла не называць, але распавяла, што спачатку Каліна Вардомская выйшла са свайго BMW і плюнула на капот чужога "Porsche", а потым наляцела на кіроўцу. Сведка інцыдэнту паведаміў: *"Дачакаўшыся, пакуль кіроўца вылезе з машыны, накінулася на яе, пачаўшы люта біць рукамі і нагамі, раз-пораз выкрыкваючы абразы, сарвала з яе завушніцы, кінула іх на зямлю. Праз некалькі хвілін яна села ў машыну і хутка з'ехала ў невядомым накірунку. Пацярпелая ж дзяўчына на гэты момант стаяла на каленях. Увесь твар быў у сіняках, валасы моцна растрапаныя, на лбе некалькі вялікіх шышак, а з мочак вушэй ішла кроў"*. Вядучая АНТ усё гэта зрабіла на вачах сваіх дзяцей, якія былі ў машыне. Дарэчы, збітая маладая жанчына аказалася шматдзетнай маці. Людзі выклікалі "хуткую", і жанчыну адвезлі ў шпіталь.


Пацярпелая.

Каліна Вардомская спачатку казала, што правата была на яе баку. Пазней, пасля рэзанансу, яна змяніла тон і стала тлумачыць, што ў яе папросту здалі нервы і яна нават хоча папрасіць прабачэння ў збітай жанчыны.

У міліцыі Фрунзенскага раёна сталіцы "Народнай Волі" паведамілі, што пакуль вядзецца праверка. Яе вынікі стануць вядомы не раней як праз 20 дзён. Калі справе дадуць ход, то вядучую АНТ могуць прыцягнуць да судовай адказнасці і нават пазбавіць волі на тэрмін да двух гадоў.


На гэты раз у Каліны не тая перамога.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## Нібы ў гатэлі

*Зняволеныя беларускіх турмаў, калоній, лячэбна-працоўных прафілакторыяў павінны будуць аплачваць сваё ўтрыманне ў гэтых установах. Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч зацвердзіў інструкцыю "Аб парадку разліку, пакрыцця расходаў асуджанымі на іх утрыманне ў папраўчых установах". Згодна з ёй, асуджаным цяпер прыйдзецца плаціць за ўсё — і за ежу, і за вопратку, і за абутак, і за камунальныя паслугі, і за газ, і за святло...*

Паводле падлікаў праваабаронцаў, каля 30% "насельнікаў" беларускіх турмаў і калоній увогуле не забяспечаны працай. Таму незразумела, з якіх даходаў яны здолеюць выплаціць неабходныя сумы. Ды і тыя, хто мае работу, атрымліваюць хутчэй сімвалічныя, чым рэальныя заробкі, якія наўрад ці пакрыюць расходы на ўтрыманне. Але намер міністэрства ясны — перавесці беларускія папраўчыя ўстановы хаця б на частковую самаакупнасць.

Так, у кошт харчавання міністр загадаў уключаць не толькі кошт прадуктаў, але і заработную плату (а таксама налічэнні на заработную плату) супрацоўнікаў устаноў, якія займаюцца арганізацыяй харчавання. Сюды ж уключаецца кошт посуду, мэблі, кухоннага абсталявання і інвентара, неабходнага для таго, каб прыгатаваць і захаваць прадукты. А таксама расходы на камандзіроўкі і службовыя раз'езды, мэта якіх — арганізацыя харчавання зняволеных; аплата транспартных паслуг; расходы на рамонт памяшканняў; амартызацыйныя адлічэнні.

У тых асуджаных, якія павінны плаціць аліменты на непаўналетніх дзяцей, спачатку вылічаць аліменты, а потым — плату за ўтрыманне. Хутчэй за ўсё на руках зняволеных ужо нічога не застанецца. Хаця раней працуючыя мелі магчымасць на зробленыя грошы купляць хоць нейкія прадукты харчавання. Адно добра: запазычанасць назапашвацца не будзе і за былым асуджаным "на волю не выйдзе".

**Алег СНОЎ.**

АКТУАЛЬНО

## Срок — один месяц

*20 сентября появилось распоряжение главы правительства Михаила Мясниковича о том, что с 1 октября в Беларуси установлен месячный срок на заселение граждан в построенные многоквартирные жилые дома. Правда, в том случае, когда они полностью рассчитались с застройщиком за выполненные работы и жилой дом сдан в эксплуатацию.*

Более того, сказано в распоряжении, *"неосуществление отдельными гражданами указанных расчетов не может являться основанием для отказа в заселении иным гражданам, полностью рассчитавшимся за выполненные работы по строительству конкретных жилых помещений в многоквартирном жилом доме"*.

Распоряжение, мягко говоря, очень кстати. Потому что в последнее время участились случаи, когда застройщик вводит дом в эксплуатацию (тогда дом не числится долгостроем), взимает с будущих жильцов всю сумму за новую квартиру, а дом в БРТИ, ссылаясь на всякие проблемы, не регистрирует. И люди месяцами ждут ключей от своих новых квартир, хотя полностью за них заплатили.

К слову, персональная ответственность за выполнение этого распоряжения возложена на председателей облисполкомов и Минского горисполкома.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ИНИЦИАТИВА

## Мама в декрете, ребенок в детсаду за ее счет

*На заседании рабочей группы по анализу системы образования Беларуси обсуждался вопрос о том, чтобы ввести полную оплату посещения детского сада ребенком до 3 лет, если мать находится в декретном отпуске или получает пособие.*

*"Более 66 тысяч детей до трех лет посещают учреждения дошкольного образования,* — подвели итоги заседания в Министерстве образования. — *При этом, как правило, родитель находится в отпуске по уходу за ребенком, получает соответствующее пособие (1,9—2,2 млн бел. руб.) и оплачивает в дошкольном учреждении только питание (250—300 тыс. бел. руб.). При этом бюджет несет необоснованную дополнительную нагрузку".*

В Минобразования также рассказали, что *"члены рабочей группы предлагают открыть семейные детские сады и дошкольные учреждения на дому. Сейчас эта форма дошкольного образования практически не развита — 15 таких учреждений на всю республику".*

В свою очередь вице-премьер правительства Беларуси Анатолий Тозик предложил обсудить предложение о размещении дошкольных учреждений на первых этажах жилых домов, сообщили в министерстве.

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906 nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647




**Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.09.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26050 экз. Заказ №3677.**